НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 1 (742) 11 студзеня 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыдня, у серады

## Айчына на скуры

На сваёй скуры яны захоўваюць нацыянальныя сімвалы — тыя, якія заціраюць на тэлебачанні і замалёўваюць на мурах. Спецпраект Сяргея Гудзіліна — старонка 9.



# Траяны беларускія

Праз засланыя камп'ютарныя вірусы **спецслужбы кантралявалі** дзеянні цікавых ім асобаў. **Старонка 4.**




**Тэндэнцыі**

## Пасол Сурыкаў: Расія будзе перашкаджаць

...стварэнню **кітайскай вытворчасці** аўтамабіляў у Беларусі.

Газета «Звязда» запыталася ў пасла Расіі: «Нядаўна была агучана інфармацыя аб тым, што ў Беларусі разглядаецца пытанне аб магчымым выпуску на базе аднаго з заводаў кітайскіх легкавых аўтамабіляў. Як у Расіі пастаўвяцца да гэтага?»

Сурыкаў адказаў без агаворак: «Мякка кажучы, без вялікага энтузіязму. Глядзіце, мы стварылі Мытны саюз якраз для абароны сябе ад надобрасумленнай канкурэнцыі іншых краін. А Кітай, як вядома, не ўваходзіць у Мытны саюз.

Таму я не выключаю, што Расія, якая мае значныя магутнасці па выпуску легкавых аўтамабіляў, будзе настойваць на істотным абмежаванні ўвозу кітайскіх камплектных частак для наступнай зборкі з іх машын у Беларусі. Гэта права Расіі і такое пытанне можа паўстаць».

Пасол Расіі таксама пагрозліва зазначыў: «Калі раптам Беларусь зноў апынецца ў складанай валютна-фінансавай сітуацыі, як гэта здарылася ў 2011, то тады, магчыма, варта будзе падумаць аб пераходзе на супольную з Расіяй валюту».

**Працяг на старонцы 3.**

**Курсы**

### Еўра ляціць у 2002-і

За месяц валюта дэвальвавалася яшчэ на 7%. **Старонка 3.**



**Воля і пятля**

### 6 фактаў па справе Бяляцкага, пра якія маўчыць БТ

Вясноўцы агучылі інфармацыю, якая замоўчваецца. **Старонка 7.**



**Камертон**

### Пераходны перыяд

Што за пачвара загнала і вядзе нас па цьмяным пераходзе? **Старонка 8.**



**Усяго патроху**

### Смерць на Каляды

200 тысяч расійскіх турыстаў у Беларусі на Новы год. **Старонка 10.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Мой анёл паляцеў на неба

Вось і ўсё, што я падумаў, калі мы з Таняй разбіліся на машыне. Піша **Сяргей Дубавец**.

Што яшчэ думаць. Што Тані больш няма, што раптоўны чорны лёд, што ў нас быў поўны парадак з паездкай і тысяча першае падарожжа? Але тады зусім нічога не зразумела. Я падумаў так, каб было тлумачэнне: мой анёл паляцеў на неба.

Гэтую думку я запісаў адразу, на другі ці трэці дзень. Я проста сядзеў і запісваў думкі. Не таму, каб не вар'яцець, і не таму, каб суцішыць вусціш, і тым больш не таму, каб нечым заняцца. А таму, каб усё ўвогуле і ўсе ўвогуле не страцілі сэнсу. Таня б ніколі не даравала гэтае страты. Пакуль ёсць сэнс, яна жывая.

...

Я не бачыў, як анёл паляцеў на неба, і не ведаю, як гэта бывае. Але я хачу так думаць, а не казаць: «Тані больш няма».

Мабыць, анёламі не нараджаюцца, а калі-кольвек становяцца, паступова, з гадамі нехта ператвараецца ў анёла. Мы радуемся, што пабач жыве такі фантастычны чалавек, нам здаецца, што ён робіцца ўсё больш дасканалым, мудрым, добрым, жаданым. Так і ёсць. Мы толькі не думаем: чаму сваёй дасканаласцю ён так вылучаецца сярод іншых? Таму што ён усё менш чалавек і ўсё больш анёл. І аднойчы, калі анёл дасягае поўнае дасканаласці, а нам здаецца, што ў ім увасобленае ўсё наша шчасце, адбываецца неспадзяванка. Анёл адлятае на неба.

...

Кажуць, замнога шчасця не бывае. Цяпер я ведаю, што бывае, і гэта менавіта тое, што з намі адбылося.




**Тацьцяна Сапач (Дубавец)**, журналістка і паэтка, загінула год таму, 27 снежня 2010, у аўтакатастрофе. Аварыя здарылася на тэрыторыі Літвы, пад Алітусам. Тацьцяна Сапач і Сяргей Дубавец вярталіся ад дачкі, якая нядаўна нарадзіла ім унучку. Машыну занесла на лёдзе.

...

16 студзеня быў неверагодна прыгожы дзень. Мароз, заснежаныя крэўскія ўзгоркі і вялізнае сонца ў дымцы. Па гэтых узгорках да Мілідаўшчыны мы ледзьве ехалі лядовай дарогай.

Калі ў Мілідаўшчыне на ўзгорку я стаў кідаць прах прыгаршчамі ўгару, ён не апускаўся на зямлю, а жоўта-брунатнай дымкай уздымаўся ў неба. І ўсё неба рабілася такога самага колеру. Так было выканане Таніна колішняе жаданне — развеяць у Мілідаўшчыне.

Агромністае белае сонца паказалася і ў Маркаве, дзе на могілках пахавалі часціну праху і паставілі вялікі праваслаўны крыж. Было адчуванне, што гэта мой анёл зазірае з вышыні — што тут робіцца, на ўзгорку пасярод белага снегу і чорных палосак лесу, пад нахіленай старой бярозай.

**Працяг на старонцы 13.**

# Мінэнерга прапанавала свой ліміт на электрычнасць

**Незалежна ад колькасці** жыхароў у кватэры.

Урад прапанаваў вызначаць ліміты электрычнасці ў залежнасці ад колькасці жыльцоў. Мінэнерга агучаны ўрадам прапановы лічыць нерэальнымі. Таму што немагчыма вызначыць, колькі чалавек рэальна пражывае ў доме, кватэры.

Напрыклад, у пэўным доме ёсць адзін абанент, з якім заключаная дамова на пастаўку электраэнергіі. А прапісаныя тры чалавекі, пражывае ж больш або менш. Як адсочваць гэтую інфармацыю, прычым кожны месяц? — цытуе ліст Белэнерга газета «Звязда». Міністэрства прапануе свой, прасцейшы варыянт: на кожнага абанента (гэта значыць на адну кватэру або дом) вызначыць ліміт 150 кВт-г у месяц. Для тых, у каго электрапліты, — 250 квт-г.

Пры гэтым колькасць чалавек, якія фактычна пражываюць у кватэры (доме), у разлік браць не будуць. Няважным будзе і тое, жывяце вы ў сельскай мясцовасці або ў горадзе.

**Сяргей Гезгала**

| Ліміт / Колькасць | 1 чалавек | 2 чалавекі | 3 чалавекі | 4 чалавекі |
|---|---|---|---|---|
| Прапанова ўрада — 107 кВт-г + 30 кВт-г на кожнага дадатковага жыхара | 107 кВт-г | 137 кВт-г | 167 кВт-г | 197 кВт-г |
| Прапанова Мінэнерга — 150 кВт-г | 150 кВт-г | 150 кВт-г | 150 кВт-г | 150 кВт-г |

Варыянт, прапанаваны ўрадам, выгадны для тых, хто пражывае ў кватэры (доме) адзін ці ўдваіх. Для тых, у каго ў сям'і трое і больш чалавек, выгадны праект Мінэнерга.

## Ахвяра Чарнобыля трэніруе ізраільскі спецназ

20-гадовы рэпатрыянт з Беларусі Аляксандр Перчык нарадзіўся з нядзейнай левай рукой. Сам ён лічыць, што гэта наступства аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Бацькі Перчыка не былі жанатыя, і, калі хлопчыку споўнілася 5 гадоў, маці яго кінула. А тата разам з ім выехаў у Ізраіль. Праз год адмовіўся ад сына, і таго гадавалі прыёмныя бацькі.

Хлопец паставіў сабе мэту — даказаць, што ён не горшы за іншых. Аляксандр вырашыў зрабіць кар'еру ў арміі, трапіць у баявыя часткі. Цяжкай працай ён дасягнуў амаль немагчымага — стаў трэнерам па фізічнай падрыхтоўцы спецпадраздзяленняў.

Ён стаў першым у гісторыі інвалідам, які трэніруе ізраільскі антытэрарыстычны спецназ.

А бацька Перчыка, вярнуўшыся назад у Беларусь, памёр ад алкагалізму.

**СГ**



## Сцісла

**Рэкордны рост цэнаў**

У 2011 годзе інфляцыя ў Беларусі стала рэкорднай за апошнія дзесяць гадоў. Паводле афіцыйнай статыстыкі, цэны выраслі на 109%.

**Кітайскі будтрэст збудаваў 30-павярховы гатэль за 15 дзён**

Кітайскі будтрэст Broad Group ажыццявіў паказальнае будаўніцтва: узвёў тыповы 30-павярховы будынак за 360 гадзін. Сцвярджаюць, што будавалі якасна, а хуткасць — заслуга добрага менеджменту і высокай дысцыпліны. Сейсмаўстойлівы і энергаэфектыўны будынак паўстаў з гатовых канструкцый.

**Каваленку пасадзілі**

Будаўнік Сяргей Каваленка з Віцебска змешчаны ў СІЗА. Актывіст адбываў умоўнае пакаранне — тры гады «хатняй хіміі» — за вывешаны на навагодняй яліне ў 2010 годзе бел-чырвона-белы сцяг. Звінавацілі яго ў тым, што ён нецэнзурна лаяўся, калі чарговы раз прыйшоў на праверку. Калі Каваленку прызнаюць вінаватым, гэта можа даць падставу засадзіць яго ў калонію.

**Дапамога бабулі Васьковіча**

Актывісты Хрысціянскай дэмакратыі і Аб'яднанай грамадзянскай партыі ў Бабруйску сабралі грошы і падарункі бабулі палітвязня Яўгена Васьковіча. Сярод калядных падарункаў былі таксама раздрукоўкі інтэрнэт-матэрыялаў пра Яўгена, у тым ліку артыкул Паўла Севярынца «Усмешка Васьковіча» («НН» №46 за 2011). Бабуля расчулілася, пабачыўшы фота свайго ўнука.

**Якія законы прымуць у 2012-м?**

Аляксандр Лукашэнка зацвердзіў план падрыхтоўкі законапраектаў на 2012 год. Сярод іх, у прыватнасці, законапраекты аб канцэсіях, аб гарадскім электрычным транспарце і метрапалітэне, аб насеннаводстве, аб рэгуляванні гандлю і грамадскага харчавання, аб мытным рэгуляванні У 2012 годзе запланавана таксама падрыхтоўка канцэпцый законаў «Аб электраэнергетыцы», «Аб дзяржаўна-прыватным партнёрстве», «Аб дзяржаўнай службе», Кодэкса аб культуры.

**СГ**

**Самае чытанае на nn.by за 1—10 студзеня**

1 Айчына на скуры

2 Элементарная кіберзброя беларускага КДБ?

3 У Мінску ў трамвая падвялі тармазы, ён пратараніў перапоўнены тралейбус + фота

4 Сайт «Хартыі» ўзламалі, выдалілі змест

5 У Маскве загінула выпускніца Коласаўскага ліцэя Воля Гудкова

6 З 1 студзеня ў Мінску адключылі Euronews

7 Фотафакт: На цэнтральнай плошчы Нясвіжа на снезе вытапталі гіганцкі надпіс ШОС

8 Пасол Сурыкаў: Расія будзе перашкаджаць стварэнню кітайскай вытворчасці аўтамабіляў у Беларусі

9 Самыя папулярныя ролікі Ю-Туба за 2011

10 Вайсковы Новы год — фотарэпартаж

# Абсалютная манаполія

«Газпрам» можа запатрабаваць ад Беларусі **5 млрд даляраў**.

«Газпрам» мае права патрабаваць ад улад Беларусі выкупіць за 5 мільярдаў даляраў раней перададзеныя расійскай кампаніі акцыі ААТ «Белтрансгаз» у выпадку невыканання найменшага палажэння міжурадавай дамовы. Больш за тое, Беларусь яшчэ і павінна будзе кампенсаваць «Газпраму» «ўсе страты, якія могуць у яго ўзнікнуць».

Вытрымкі з пагаднення, якое ААТ «Газпрам» і Дзяржкамітэт па маёмасці Беларусі падпісалі 25 лістапада мінулага года ў Маскве, нарэшце апублікавала расійскае РІА «Навіны». Раней змест гэтага дакумента не выдаваўся.

А вось якія ўмовы:

— спажыванне газу, што закупляецца, выключна на тэрыторыі Беларусі;

— бесперабойная транспарціроўка транзітнага газу ў Еўропу;

— выключнае права «Белтрансгаза» на пастаўку газу спажыўцам Беларусі;

— забарона на ўвядзенне «залатой акцыі» на ўдзел у кіраванні беларускім газатранспартным прадпрыемствам;

— нязменнасць умоў карыстання зямельнымі ўчасткамі пад аб'ектамі нерухомасці газаправода Ямал — Еўропа.

Фактычна, «Газпрам трансгаз Беларусь» робіцца дзяржавай у дзяржаве на векі вечныя. Яму аддаецца абсалютная манаполія на газавым рынку, што б ні здарылася з цэнамі і кан'юнктурай.

Рэч у тым, што пры наяўнасці такога пагаднення «Газпрам» лёгка даб'ецца выплат ад Беларусі ў любым міжнародным арбітражы, як толькі Мінск парушыць нейкую з умоваў.

**Сяргей Гезгала**

# Пасол Сурыкаў: Расія будзе перашкаджаць

Працяг са старонкі 1.

Ён шмат гаварыў аб правобразе будучага адзінага ўрада Еўразійскага саюза, які назвалі Еўразійскай эканамічнай камісіяй: «Гэтая вялікая структура робіць толькі першыя крокі. Яе штаб-кватэра ў Маскве, туды падбіраецца кваліфікаваны персанал, дзесьці каля 1200 чалавек. Усе яны — расіяне, беларусы і казахстанцы — будуць прымацца на працу толькі па выніках адкрытага конкурсу на замяшчэнне пэўнай пасады».

— Чым будзе займацца ў Камісіі член калегіі ЭЭК Сяргей Сідорскі, у нядаўнім мінулым прэм'ер-міністр беларускага ўрада? — запыталася «Звязда».

— Якраз пытаннямі дзейнасці аграпрамысловага комплексу і прамысловасці.

— І як будзе аплачваца складаная праца члена калегіі ЭЭК?

— Кожны з дзевяці членаў калегіі ЕЭК будзе атрымліваць зарплату прыкладна такую, як і міністр урада Расійскай Федэрацыі.

Гэта, зразумела, прыстойная аплата працы. У ЕЭК перадаецца прыкладна 175 нацыянальных паўнамоцтваў, напрыклад, мытныя і інш. Камісія будзе выконваць гэтыя паўнамоцтвы ўжо ў якасці наднацыянальнага органа.

Цікава, што на словы расійскага пасла не адрэагавалі беларускія палітыкі. Адзіная рэакцыя прыйшла з-за акіяна, ад Рады БНР.

«Спадар Сурыкаў павінен быць абвешчаны «персонай нон грата» і неадкладна пакінуць тэрыторыю Беларусі. У выпадку, калі гэта не будзе зроблена ціпер — гэта павінна будзе зрабіць новая дэмакратычная ўлада, незалежна ад таго, якую пасаду будзе займаць цяперашні расійскі амбасадар», — адзначаецца ў заяве Рады БНР, якая разглядзела ў словах Сурыкава адкрытае ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы Беларусі.

Паводзіны Сурыкава дазваляюць праводзіць паралелі з учынкамі ягоных папярэднікаў канца XVIII ст. Расійскія дыпламаты ў Рэчы Паспалітай у той час выкручвалі рукі кіроўнай эліце і дыктавалі, што будзе лепш для краіны з улікам пазіцый Расіі. Гэта скончылася трыма падзеламі Рэчы Паспалітай і стратай незалежнасці. Працэс ішоў пад непасрэдным кантролем расійскіх паслоў.

**Мікола Бугай, Зміцер Панкавец**



**Аляксандр Сурыкаў** нарадзіўся ў 1940 у Мурманску. Ягоны працоўны шлях звязаны з Алтайскім краем. У 1996 абраны губернатарам краю. У 2006, пасля таго, як Мінск адмовіўся прымаць паслом Дзмітрыя Аяцкава, прызначаны пасланнікам Расіі ў Беларусі.

# Што гаварыў Сурыкаў

Пасол Расіі любіць выказвацца па розных актуаліях, часам адмятаючы **дыпламатычны такт**.

### Ядзерная зброя

У 2007 Сурыкаў справакаваў скандал сваімі выказваннямі аб магчымасці размяшчэння на тэрыторыі Беларусі расійскай ядзернай зброі ў адказ змяшчэнне амерыканскай сістэмы СПА ў Чэхіі і Польшчы.

«Амбасадар Сурыкаў, мабыць, забыўся, што ён знаходзіцца не дзе-небудзь у Алтайскім краі, а ў незалежнай Беларусі. Такія заявы, па-першае, не ўласцівыя дыпламатам, а па-другое, іх можна расцэньваць, як замах на суверэнітэт дзяржавы», — заявіў тады былы намеснік міністра замежных спраў Беларусі, будучы кандыдат у прэзідэнты і палітвязень Андрэй Саннікаў.

«Адны выступы павінны ацэньваць палітыкі, а іншыя — можа, нават лекары», — не вытрымаў тады нават пісьменнік і сенатар Мікалай Чаргінец, блізкі да Лукашэнкі.

Праўда, ужо на наступны дзень Сурыкаву давялося даваць афіцыйнае абвяржэнне.

### Асецыя і Абхазія

«Нам вельмі незразумела, чаму ўлады Беларусі захоўваюць сціплае маўчанне па сітуацыі ў Паўднёвай Асеціі. У выпадку з'яўлення непрыемнасцей у Беларусі мы ваша гора засёды раздзяляем у міжнародных арганізацыях», — так сказаў Сурыкаў падчас ваеннага канфлікту Расіі і Грузіі ў жніўні 2008.

**Саннікаў: Сурыкаў забыў, што ён не ў Алтайскім краі, а ў незалежнай Беларусі** »

### АДКБ

У пачатку 2009 журналісты пацікавіліся ў пасла, ці не значаць новыя пагадненні ў рамках адзінай сістэмы СПА і АДКБ, што беларуская вайскоўцы будуць служыць за межамі краіны. «Міжурадавыя пагадненні стаяць усё ж вышэй за заканадаўства асобных краін», — не выключыў Сурыкаў удзелу беларускіх хлопцаў у ваенных канфліктах.

«Не трэба паслу забягаць наперад», — адрэагавала на гэта беларускае МЗС.

**Зміцер Панкавец**

# Уладзімір Арлоў: Пасол Сурыкаў і пасол Сіверс

Пісьменнік **Уладзімір Арлоў** правёў аналогію паміж цяперашнім паслом Расіі Аляксандрам Сурыкавым і паслом Расійскай імперыі ў Рэчы Паспалітай Якавам Сіверсам.

«Гістарычная аналогія — рэч рызыкоўная. Аднак тое, што адбываецца цяпер вакол ідэі гэтак званага Еўразійскага саюза, прыводзіць на памяць падзеі канца XVIII ст. У 1792 годзе ў Гродне быў сабраны сойм для вызначэння ўмоў Другога падзелу Рэчы Паспалітай. «Рэжысёрам сойма» Пецярбург прызначыў Якава Сіверса.

Сіверс адразу разгарнуў бурную дзейнасць — кажучы сучаснай моваю, раздаваў інтэрв'ю, папярэджваў, пагражаў, абяцаў. Тым не менш, тады існавала нешматлікая, але зацятая апазіцыя. Таму 22 жніўня 1793 Сіверс загадаў расійскім войскам увайсці ў Гродна. Яны занялі ўсе асноўныя вуліцы, без дазволу расійскага каменданта ніхто не мог выйсці з дому. Неўзабаве ўсе апазіцыянеры былі схопленыя ўначы, проста ў ложку і вывезеныя з горада.

Уражвае карціна апошняга паседжання. Замак быў атачоны войскамі, дэпутаты ішлі на соймпад рулямі гарматаў. Пры каралеўскім троне сядзеў расійскі генерал Рутэнфельт. Паслы маўчалі, што праз пэўны час было трактавана як згода. Так той сойм і ўвайшоў у гісторыю як «маўклівы».

Я хачу ўзгадаць словы з дэпешы, якую адзін з расійскіх генералаў накіраваў тады ў Пецярбург: «Присутствие наших солдат придает соответствующее направление мыслям здешних жителей».



**Парадны партрэт пасла Якава Сіверса.**

Апошнія выказванні пасла Сурыкава сведчаць пра тое, што Расія зноў пераходзіць да дыктату. Застаецца нагадаць, што падзеі 1793 года прывялі да вызвольнага паўстання Тадэвуша Касцюшкі».

**Запісаў Юрась Ускоў**

# Еўра ляціць у 2002-і

За месяц **валюта дэвальвавалася** яшчэ на 7%.

Еўрапейская валюта працягвае сваё падзенне другі месяц запар. Гіганцкія пазыкі Грэцыі і Італіі цягнуць на дно ўсю астатнюю Еўропу. Кіраўніцтва Еўрасаюза спрабуе ажывіць эканоміку крызісных краінаў, прабачыўшы частку даўгоў і патрабуючы жорсткага бюджэтнага ашчаджэння. Аднак мясцовае насельніцтва выступае катэгарычна супраць пагаршэння дабрабыту, восьі штурхае свае краіны да прорвы.




**У 2002-м еўра здавалася незваротным. Старонка 1 нумара 1 «НН» за той год.**

У выніку валюта імкліва абясцэньваецца. Яшчэ два месяцы таму за 1 даляр давалі 1,4 еўра, а цяпер — толькі 1,27-1,28 еўра. Эканамісты спаборнічаюць у песімістычных прагнозах наконт перспектыў еўра. Большасць з іх мяркуе, што ў бліжэйшыя месяцы ён апусціцца яшчэ на 5-10%, іншыя ж прадказваюць смерць валюты.

Зрэшты, у час увядзення еўра яно каштавала ўсяго 0,9 даляра, таму яго курс апошнія гады можна лічыць проста завышаным.

У той жа час сусветна вядомы фінансіст Джордж Сорас выказаў меркаванне, што крах еўра прывядзе да распаду Еўрасаюза. Гэта будзе мець «катастрафічныя» наступствы для свету. На яго думку, крызіс еўра наймацнейшы за апошні час і ўяўляе большую небяспеку, чым крызіс 2008 года.

**ЯМ**

Праз засланыя **камп'ютарныя вірусы** спецслужбы кантралявалі дзеянні цікавых ім людзей.

# Траяны беларускія

Пераднавагоднія дні азмрочыліся масіраваным нападам на незалежныя сайты. 29 снежня была арганізаваная знішчальная атака на «Хартыю'97» (charter97.org), адзін з самых папулярных рэсурсаў беларускага інтэрнэту. Зламыснікі выдалілі ўсе матэрыялы з сайта, выставіўшы свой, у якім змяшчаліся брудныя абразы ў бок экс-кандыдата ў прэзідэнты палітвязня Андрэя Саннікава. Не паспела адміністрацыя сайта вярнуць навіны на месца, як на наступны дзень знішчальная атака паўтарылася. У тыя ж дні быў узламаны і сайт Маладога фронту, што паралізавала яго працу на некалькі дзён.

Расследаванне ўзломаў прывяло да нечаканых вынікаў. Выявілася, што камп'ютары многіх журналістаў, палітыкаў і грамадскіх дзеячаў былі заражаныя траянскімі праграмамі, якія збіралі канфідэнцыйную інфармацыю і перасылалі яе камусьці — магчыма, спецслужбам. Перадусім гэта паролі на доступ да сайтаў, але, апроч таго, перапіска праз электронную пошту і праграму Skype, любы тэкст, які набіраўся на камп'ютары і нават карцінка з манітора з дзеяннямі карыстальніка.

**Спецыялісты раяць устанаўліваць антывірусы і на мабільныя тэлефоны »**

Сетка працавала як мінімум з ліпеня 2011 года.

Сярод выяўленых ахвяраў віртуальнага кантролю былі рэдакцыя «Хартыі'97», жонка зняволенага Андрэя Саннікава Ірына Халіп, журналістка Марына Коктыш, дзеяч Кампартыі і кампаніі «Гавары праўду» Сяргей Вазняк, сын Міхаіла Марыніча Павел і многія іншыя грамадскія дзеячы.

Траянская сетка, сцвярджае сайт electroname.com, кантралявалася з дапамогай некалькіх скрынь электроннай пошты. Адміністратары «Хартыі» атрымалі доступ да некаторых: boss.bigben@mail.ru і 123asqedws@mail.ru. Аналіз дасланых вірусамі логаў актыўнасці заражаных камп'ютараў дазваляе сцвярджаць, што рабіліся спробы заражэння лэптопаў Беларускай асацыяцыі журналістаў, адваката Алеся Бяляцкага Змітра Лаеўскага, каардынатара «маўклівых» акцый пратэсту Вячаслава Дзіянава. Ці былі тыя спробы паспяховымі — невядома.

У большасці выпадкаў журналісты і палітыкі самі выпадкова запускалі вірус, атрыманы па электроннай пошце. Старыя антывірусныя базы ці ўвогуле адсутнасць антывіруса дазвалялі траянскай праграме бесперашкодна ўсталёўвацца на камп'ютары.




**Вірусы і траяны прысылаюць пад выглядам мэйлаў з цікавымі прапановамі.**

Як выявілася, зламыснікі выкарыстоўвалі тую самую праграму, якую супрацоўнікі КДБ перадавалі актывісту Максіму Чарняўскаму падчас вярбоўкі. Нагадаем, яны патрабавалі, каб той усталяваў вірус Дзіянаву. Гэты факт лішні раз даказвае, хто можа стаяць за атакамі на незалежныя сайты.

КДБ выказаць сваю пазіцыю не спяшаецца. «Мы не будзем нічога каментаваць», — заявіў прадстаўнік Цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ карэспандэнту БелаПАНа.

Адміністратары «Хартыі'97» тым часам звярнуліся ў кіберпаліцыю Літвы, каб тыя дапамаглі пакараць узломшчыкаў.

У Амерыцы аналагічная сітуацыя — Уотэргейт — прывяла да адстаўкі прэзідэнта Ніксана. Але ў Беларусі нават забойствы былога міністра Захаранкі і віцэ-прэм'ера Ганчара застаюцца нерасследаванымі. Прынамсі, пакуль.

**Ягор Марціновіч**

У бліжэйшы час у адной з беларускіх ВНУ будуць рыхтаваць спецыялістаў па прыкладной крыптаграфіі. Выпускнікі атрымаюць кваліфікацыю «Матэматык. Спецыяліст па абароне інфармацыі», а за іх працаўладкаванне возьмецца КДБ.

# «Можна ўзламаць і сайт Пентагона»

Наколькі ўсемагутныя хакеры спецслужбаў? На пытанні «Нашай Нівы» адказаў спецыяліст па камп'ютарнай бяспецы Іван.

**«НН»: Вызначаныя IP-адрасы, з якіх рассылаліся вірусы. Якая верагоднасць пакарання іх уладальнікаў?**

**Праграміст Іван:** Нават калі будуць прад'яўленыя прэтэнзіі, верагодна, што разбіральніцтва па пошуку расцягнецца на доўгі час. У Беларусі немагчыма вызначыць дакладны фізічны адрас камп'ютара па IP. Максімум — якому аператару сувязі належыць.

**«НН»: Траянскія праграмы, якімі былі заражаныя камп'ютары — KeyloggerDetective, UFR Stealer, RMS Trojan, — можна назваць сур'ёзнымі, ці для антывіруса са свежымі базамі не праблема іх выдаліць?**

**ПІ:** Калі гэта мэтанакіраваны вірус, які робіцца пад пэўныя задачы, напрыклад, каб знайсці пэўны файл на камп'ютары, то вылічыць яго будзе складана, таму што ён пішацца з улікам патрэбаў замоўцы. А калі ён шырокага профілю — як тыя, што пералічаныя, — дастаткова карыстацца антывірусам і пэўнымі нормамі інфармацыйнай бяспекі.



IP-адрас — лічбавы адрас камп'ютара ў інтэрнэце. Можа быць унікальным ці агульным для сеткі камп'ютараў.

**«НН»: На Вашу думку, беларускі КДБ пакуль не распрацоўвае свае «фірмовыя» вірусы?**

**ПІ:** Там працуюць далёка не дурні. Іх не варта недаацэньваць.

**«НН»: Іх здольнасцяў і магчымасцяў хапіла б, каб, напрыклад, проста выдаліць сайт «Хартыі'97»?**

**ПІ:** Думаю, што так. Невырашальных задач не існуе. Але «Хартыя'97» наўрад ці захоўваецца на адным серверы, таму выдаленне будзе каштаваць шмат працоўнага часу. Зноў жа, сайт заўжды можна аднавіць з бэкапа.

**ЯМ**

# Інструкцыя для пошуку і выдалення вірусаў, выяўленых камп'ютарнікамі «Хартыі»

**I. KeyloggerDetective**

Траянская праграма, вядомая як Keylogger Detective, дэтэктуецца як «modified Win32/PSW.Sycomp. G» (NOD32), «Trojan. MulDrop3.2380» (DrWeb), «Trojan-Spy. Win32.Agent.btzs» (Kaspersky), «TrojanSpy: Win32/Keylogger. BK» (Microsoft), «SHeur3.CKGS» (AVG), «Trojan. ADH» (Symantec), «TrojanSpy. Agent.btzs» (VBA32).

Файл мае памер 87,312 байт. MD5: e740bf2a9539bf4fc4df88cf4e799bf2.

Пры запуску стварае дырэкторыю «C: \ Documents and Settings \ <Карыстальнік> \ Application Data \ sysdata», куды капіюе сябе, і захоўвае ў ёй файлы з інфармацыяй аб націснутых клавішах, актыўных вокнах, кліках мышкі і змесціве буферу абмену. Файлы з перацягнутай інфармацыяй маюць выгляд sys.dat, 0sys.dat, 1sys.dat. Сабраную інфармацыю адпраўляе на паказаную ў праграме паштовую скрыню па меры яе назапашвання.

Для аўтазапуску, пры загрузцы сістэмы, выкарыстоўвае ключ рэестра

HKCU \ Software \ Microsoft \ Windows \ CurrentVersion \ Run \ yrrrrt2.

Для ручнога выдалення неабходна:

1. прымусова завяршыць працэс svssvc.exe;
2. выдаліць дырэкторыю «C: \ Documents and Settings \ <Карыстальнік> \ Application Data \ sysdata»;
3. выдаліць ключ рэестра HKCU \ Software \ Microsoft \ Windows \ CurrentVersion \ Run \ yrrrrt2

альбо адключыць аўтазапуск з дапамогай стандартнай утыліты msconfig.exe (см профіль Аўтазапуск, элемент svssvc).

Пасля выдалення праграмы рэкамендуецца змяніць паролі ад усіх рэсурсаў, доступ да якіх ажыццяўляўся з заражанай сістэмы.

**II. UFR Stealer**

Траянская праграма, вядомая як UFR Stealer, дэтэктуецца як «Trojan. PWS.UFR.11» (DrWeb), «Generic23. FQT» (AVG), «Trojan-PSW.Win32.Ruftar.bsa» (Kaspersky), «Trojan: Win32/Anomaly «(Microsoft),» a variant of Win32/Spy. Usteal. A «(NOD32),» Trojan. Khil.23905 «(VBA32)

Файл мае памер 52,736 байт. MD5: 71f950f31c15023c549ef4b33c2bf1e0

Пры запуску збірае лагіны / паролі прыкладак, якія выкарыстоўваюцца ў сістэме. Падтрымлівае крадзеж пароляў ад такіх праграм, як Opera, Firefox, Chrome, Internet Explorer, QIP, MSN Messenger, ICQ, Mail.ru Agent, Pidgin, Google Talk, Miranda, The Bat!, FileZilla, Total Commander і інш Таксама збірае агульную інфармацыю аб сістэме. Захоўвае сабраную інфармацыю ў тэчку ufr_files, у дырэкторыі, дзе была запушчана праграма і спрабуе перадаць сабраныя дадзеныя на паказаную ў целе праграмы паштовую скрыню. Пасля гэтага самавыдаляецца.

У сістэме не замацоўваецца, таму ручное выдаленне з сістэмы не патрабуецца. Пры выяўленні такога файла выдаліце яго самастойна, не запускаючы.

Вызначыць, ці была запушчана ў вас дадзеная праграма, можна па характэрных слядах, якія застаюцца ў сістэме:

* Наяўнасць тэчкі ufr_files на вашым дыску з файламі *. dat, *. bin, *. txt, *. ds;

* Наяўнасць prefetch-файла па шляху: C: \ Windows \ Prefetch \ ABGREYD.EXE-*. pf.

Пасля выдалення праграмы рэкамендуецца змяніць паролі ад усіх рэсурсаў, доступ да якіх ажыццяўляўся з заражанай сістэмы.

**III. RMS Trojan**

Траянская праграма, пабудаваная на аснове легальнай праграмы для дыстанцыйнага адміністравання, вядомай як Remote Manipulator System (http://www.tektonit.ru). Кампаненты, якія з'яўляюцца легальным ПЗ, не дэтэктуюцца антывіруснымі праграмамі як шкодніцкія файлы, аднак інсталятар вызначаецца як «Worm. Autorun-8201» (ClamAV), «Trojan. Generic.6178206» (GData), «Backdoor. BAT.Agent.l» (Kaspersky), «Backdoor. BAT.Agent.l» (VBA32).

Файл мае памер 2,782,938 байт. MD5: 3299b4e65c7c1152140be319827d6e04.

Пры запуску стварае схаваную дырэкторыю C: \ Windows \ system32 \ catroot3, куды капіюе розныя кампаненты праграмы выдаленага кіравання, настройвае сістэмны фаервол, стварае схаваны файл C: \ Windows \ system32 \ de.exe. Пасля гэтага запускае праграму выдаленага кіравання і самавыдаляецца з дырэкторыі запуску.

Наяўнасць у сістэме можна вызначыць:

* Па працуючых працэсах rutserv.exe або rfusclient.exe;

* Па наяўнасці утоеных дырэкторый C: \ Windows \ system32 \ catroot3 і файла C: \ Windows \ system32 \ de.exe;

* Па наяўнасці сэрвісу з імем «TektonIT — R-Server».

Кіраванне ажыццяўляецца па ўласным пратаколе (на аснове TCP), выкарыстоўваючы серверы кампаніі Tekton-IT, якія прадастаўляюцца на бясплатнай аснове.

Для хуткага ручнога выдалення можна скарыстацца дэінсталятарам, які, мабыць, памылкова капіюецца ў сістэму разам з астатнімі кампанентамі шкадлівага сэрвісу. Запуск C: \ windows \ system32 \ de.exe выдаліць запісы з рэестра, спыніць працуючы сэрвіс і выдаліць усе кампаненты прыкладкі, у тым ліку і сам файл de.exe.

**Больш на тэму, у тым ліку меркаванні чытачоў-спецыялістаў, чытайце на nn.by**

# Рэзервовы фонд прэзідэнта забярэ з бюджэту $237 мільёнаў

Затое **выдаткі** на міліцыю і КДБ скароцяцца.

Больш грошай на здароўе і адукацыю, але менш на міліцыю і КДБ. Гэта не казка, а рэспубліканскі бюджэт на 2012 год. «Наша Ніва» параўновае, на што выдаткоўваліся грошы летась і як плануецца патраціць сёлета.

Для зручнасці розніцы прыводзяцца ў далярах. Сярэдні курс амерыканскай валюты ў 2011 годзе склаў 4 623 рублі. Гэта сярэдняе арыфметычнае штодзённага афіцыйнага курса даляра. На 2012 год у бюджэце закладзены курс 9 150 рублёў.

За год памер бюджэту ў даляравым эквіваленце павялічыўся на 17%. Адпаведна падраслі і выдаткі па асноўных артыкулах. Ахова здароўя, культура, СМІ — усе гэтыя сферы атрымаюць нават большую долю бюджэту, чым раней. За кошт чаго? За кошт таго, што бюджэт-2011 моцна знізіўся постфактум у даляравым эквіваленце. Калі пералічыць яго па курсе 3000, то выйдзе, што фінансаванне ўсіх сфераў жыцця будзе моцна скарочанае.

Рэзервовы фонд прэзідэнта Расіі ў 11 разоў меншы, чым у Лукашэнкі. Пры гэтым у Расіі кожны ахвотны можа азнаёміцца, на што быў патрачаны кожны рубель.

### Адлічэнні з бюджэту ў рэзервовы прэзідэнцкі фонд

| Год | Адлічэнні |
|---|---|
| 2012 | $237 мільёнаў |
| 2011 | $89 мільёнаў |
| 2010 | $927 мільёнаў |
| 2009 | $114 мільёнаў |
| 2008 | $99 мільёнаў |

### Калі б так расла эканоміка…

Рэкардсмен росту — рэзервовы фонд прэзідэнта. Сёлета з бюджэту ў яго будзе пералічана 2,17 трыльёна рублёў — гэта $237 мільёнаў!

| Раздзел выдаткаў | 2011 | 2012 | Змены |
|---|---|---|---|
| Праца дзяржаўных органаў | $231 мільён | $252 мільёны | +9% |
| Рэзервовы фонд прэзідэнта | $58 мільёнаў | $237 мільёнаў | у 4 разы |
| Нацыянальная эканоміка | $1,564 мільярда | $1,845 мільярда | +18% |
| Нацыянальная абарона | $454 мільёны | $503 мільёны | +11% |
| Органы ўнутраных спраў | $370 мільёнаў | $319 мільёнаў | -14% |
| КДБ | $63 мільёны | $57 мільёнаў | -10% |
| Суды | $51 мільён | $49 мільёнаў | -4% |
| Ахова здароўя | $340 мільёнаў | $414 мільёнаў | +22% |
| Культура | $58 мільёнаў | $71 мільён | +22% |
| Прапаганда (СМІ) | $46 мільёнаў | $54 мільёны | +17% |
| Адукацыя | $463 мільёны | $505 мільёнаў | +9% |
| Сацыяльная палітыка | $944 мільёны | $968 мільёнаў | +3% |
| **УСЯГО** | **$8,6 мільярда** | **$10,1 мільярда** | **+17%** |

Гэта ў чатыры разы больш, чым летась. Адлічэнні такога кшталту сталі штогадовымі, з 2007 года агульная сума ўжо перавысіла $1,5 мільярда.

Паводле афіцыйнай інфармацыі, грошы з рэзервовага фонду ідуць на падтрымку таленавітай моладзі — выплату павышаных стыпендый, арганізацыю адукацыйных і забаўляльных мерапрыемстваў.

Таксама з прэзідэнцкага фонду фінансуюцца знакавыя будоўлі: напрыклад, у 2011-м гэта была рэканструкцыя Тэатра імя Янкі Купалы, якім раней кіраваў цяперашні кіраўнік БТ Генадзь Давыдзька, а таксама будаўніцтва Цэнтра фрыстайла каля Акадэміі навук, якім апякуецца памочніца прэзідэнта Наталля Пяткевіч. Хоць гэтыя будоўлі і фінансаваліся праз фонд прэзідэнта, на самой справе гэта былі грошы звыклых падаткаплатнікаў.

**Ягор Марціновіч**

# Па кім ударыць новая базавая велічыня?

З 1 красавіка яна вырасце з 35 тысяч **да 100 тысяч рублёў**.

Базавая велічыня — адзіны эканамічны паказчык, які трымаецца на нязменным узроўні яшчэ з 2007 года. Яе памер — 35 тысяч рублёў — заставаўся ранейшым, але каштоўнасць гэтых грошай паменшала за гэты час у чатыры разы.

Згодна з пастановай Савета Міністраў, ад 1 красавіка базавая велічыня будзе складаць 100 тысяч рублёў. Зменіцца многае — і памер дзяржаўнай дапамогі, і штрафы, і памер многіх іншых плацяжоў. У любым выпадку павелічэнне грашовай масы будзе стымуляваць інфляцыю і прыводзіць да чарговага росту цэнаў.

Такім чынам, хто застанецца ў выйгрышы ад рэформы, а хто, наадварот, прайграе?

**У плюсе:**

**1. Тыя, хто атрымлівае бюджэтныя выплаты**

Базавая велічыня — адзін з паказчыкаў, да якіх фармальнаа прывязваецца памер сацыяльнай дапамогі. Гаворка вядзецца пра стыпендыі, дапамогу беспрацоўным, даплаты настаўнікам і дактарам, інвалідам, шматдзетным сем'ям і іншым катэгорыям беларусаў. Аднак няварта чакаць, што ўсе выплаты з 1 красавіка вырастуць утрая. Калі рост і будзе, то нязначны, бо пералічаць і каэфіцыенты.

**2. Прадстаўнікі творчых прафесій**

Ганарары за творы мастацтва вырастуць утрая. За апошні час мінімальны заробак пастаянна павялічваўся, а ганарары, прывязаныя да базавай велічыні, не змяняліся. Застаючыся на ўзроўні 2007 года, яны ніяк не стымулявалі да працы.

**3. Прадпрымальнікі**

Спрашчэнне працы — адзін з плюсаў, якія займеюць з 1 красавіка ўладальнікі дробнага бізнэсу. Напрыклад, атрымліваючы штомесяц 100 мільёнаў рублёў, індывідуальны прадпрымальнік не будзе павінен адкрываць разліковы рахунак у банку. Цяпер такі ліміт складае 35 мільёнаў рублёў. Аднак усе «плюсы» для прадпрымальнікаў нівеліруюцца істотным мінусам, звязаным з арэнднай платай (глядзі ніжні рэйтынг).

**У мінусе:**

**1. Прадпрымальнікі**

Некалькі гадоў таму арэндная плата за памяшканні вылічвалася ў еўра. Курс рэзка рос, таму было вырашана прывязаць арэнду да базавай велічыні — меркавалася, што яна будзе павялічвацца павольней. У выніку пасля некалькіх гадоў зацішша арэндная плата скокне адразу ўтрая.

**2. Правапарушальнікі**

Да базавай велічыні прывязаныя ўсе штрафы. Напрыклад, цяпер пакаранне за безбілетны праезд будзе складаць 20 тысяч рублёў (а не 7 000 рублёў, як зараз). Некаторыя штрафы нарэшце будуць выглядаць унушальна. За ўжыванне алкагольных напояў можна заплаціць нават 1,5 мільёна рублёў. «Падаражэюць» і кары за пратэст. «Нецэнзуршчына» ў грамадскім месцы можа каштаваць да 3 мільёнаў рублёў.

**3. Студэнты**

Адна рука дае, другая забірае. Магчымае павышэнне стыпендый кампенсуецца падаражаннем інтэрнатаў. У залежнасці ад ступені камфорту пражыванне ў іх каштуе 1–3 базавыя велічыні. З красавіка гэта будзе 100–300 тысяч рублёў.

**4. Тыя, хто афармляе дакументы**

З 1 красавіка ўтрая падаражэюць афармленне правоў, падача дакументаў у ЗАГС, замена пашпарта і многія іншыя «папяровыя» працэдуры. Каб ажаніцца, давядзецца заплаціць 100 тысяч рублёў, а каб атрымаць новы пашпарт — 50 тысяч.

**ЯМ**

# Льготнае крэдытаванне застанецца для выбраных

Маладыя сем'і з двума дзецьмі могуць атрымаць грошы пад 22,5%, для астатніх застаюцца **прапановы па 30—49% гадавых.**

Пытанні льготнага крэдытавання жылля канчаткова вырашаны. Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ № 13 «Аб некаторых пытаннях прадастаўлення грамадзянам дзяржаўнай падтрымкі пры будаўніцтве (рэканструкцыі) ці набыцці жылых памяшканняў». Дакумент вызначае новыя правілы льготнага крэдытавання. Спіс тых, хто мае права на падтрымку, скарочаны (глядзі табліцу). Цяпер стаўка крэдыту прывязаная да стаўкі рэфінансавання (СР).

Норма ўласнасці цяпер складае 10 квадратных метраў для Мінска і 15 метраў для іншых населеных пунктаў. Гэта мусіць спыніць прырост чаргі на паляпшэнне жыллёвых умоваў.

Раней адкрытыя крэдытныя лініі вырашана не адмяняць, але і павялічваць іх не ўдасца. А вось той, хто атрымаў дазвол на атрыманне крэдыту ад райвыканкама, але не паспеў заключыць дамову з банкам, застанецца ні з чым.

**ЯМ**

### Крэдытаванне жылля на новых правілах

| Стаўка гадавых | Тэрмін | Катэгорыя грамадзянаў |
|---|---|---|
| 1% | 40 гадоў | Шматдзетныя сем'і |
| 4,5% (10% СР) | 20 гадоў | Інваліды, чарнобыльцы, даўнія жыхары інтэрнатаў, тыя, хто мае непрыдатнае жыллё, — у малых населеных пунктах |
| 5% | 20 гадоў | Ваеннаслужачыя, міліцыя, КДБ, суддзі, пракурорскія работнікі |
| 9% (20% СР) | 20 гадоў | Інваліды, чарнобыльцы, даўнія жыхары інтэрнатаў, тыя, хто мае непрыдатнае жыллё |
| 22,5% (50% СР) | 20 гадоў | Маладыя сем'і, якія маюць двух непаўналетніх дзяцей |
| 30—31% | 20 гадоў | Людзі з чаргі на паляпшэнне жыллёвых умоў |
| 49% | 15 гадоў | Усе астатнія |

*насельніцтва менш за 20 тысяч чалавек

**Міліцыянты і КДБ-шнікі па-ранейшаму змогуць будавацца пад 5%**

## Сцісла:

**Цыгарэты зноў падаражэлі**

З 1 студзеня цэны выраслі на 6—27%. Цяпер пачак цыгарэтаў Winston каштуе 7 000 рублёў (+27,3%), Monte Carlo — 5 000 (+11%), «Мінск», «Прэм'ер» — 2900 (+9,4%).

**Золатавалютныя рэзервы дасягнулі $8 мільярдаў**

Дзякуючы пералічаным крэдытам запасы краіны дасягнулі абсалютнага рэкорду — $7,9 мільярда. За 2011 год дзяржава паклала ў сховішча больш за $5 мільярдаў атрыманай дапамогі.

**МТС усё не могуць прадаць**

Аўкцыён аб продажы 51% акцый мабільнага аператара, якія належаць Беларусі, у чарговы раз перанесены. Чакаецца, што ён адбудзецца пры канцы студзеня.

**Чарга на акцыянаванне**

Беларускія заводы адзін за адным ператвараюцца ў акцыянерныя таварыствы. Гэта робіцца для таго, каб пасля прадаць іх інвестарам. Рэформа ўжо закранула Касцюковіцкі цэментны і Беларускі металургічны заводы. Наступныя ў чарзе «Граніт» і МТЗ.

**ЯМ**

# Парку 40-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі прыйдзе «Пекін»

Жыхары вуліцы Чырвонаармейскай **у шоку**.

Пабудова ў Мінску гатэля «Пекін» выклікала незадавальненне мясцовых жыхароў. Рэч у тым, што гатэльны комплекс зойме амаль увесь парк.

26 снежня жыхары проста сарвалі «Зелянбуду» высечку — адбыўся канфлікт. «Жанчыны кідаюцца пад бензапілы як ненармальныя», — цытуе «Салідарнасць» аднаго з рабочых.

Жыхары выйшлі на пікет з плакатамі «Рукі прэч ад парку», а таксама сабралі болей за чатырыста подпісаў у абарону дрэваў. Аналагічны надпіс з'явіўся на сцяне старой грамадскай прыбіральні, аднак ЖЭС амаль адразу


СЯРГЕЙ БАЛАЙ, «САЛІДАРНАСЦЬ»

зафарбаваў яго. Працы прыпыненыя, аднак незразумела, ці дадуць нейкі вынік накіраваныя жыхарамі ў Адміністрацыю прэзідэнта звароты.

У свой час на месцы парку знаходзіўся мінскі іпадром, дзе ў 1944 годзе адбыўся знакаміты парад партызанаў, а ў 1946-м былі публічна пакараныя смерцю чатырнаццаць нямецкіх афіцэраў.

Праект пяцізоркавага гатэля «Пекін» быў ухвалены ўладамі ў 2011 годзе, а ў верасні будаўніцтва распачалося. У праекце гатэль будзе пабудаваны ў «псеўда-кітайскім» стылі. Гатэль будзе мець 207 нумароў. Апроч таго, у комплекс увойдуць тры рэстараны, спартовы цэнтр і гандлёвыя аб'екты. Участак пад адзін з рэстаранаў таксама знаходзіцца на «зялёнай» тэрыторыі, і пад яго мусяць высекчы яшчэ 25 дрэваў.



СЯРГЕЙ БАЛАЙ, «САЛІДАРНАСЦЬ»

Гатэлі масава будуюцца да Чэмпіянату свету па хаекі 2014 года.

**Юрась Ускоў**




# Мінгарвыканкам захавае «Плошчу Леніна»

Прычына — **«неадназначныя меркаванні»** жыхароў горада.

Упраўленне культуры Мінгарвыканкама ў чарговы раз выказалася пра перайменаванне станцыі метро «Плошча Леніна». Нагодай стаў запыт жыхара горада на сайце ўстановы.

У адказе, падпісаным начальнікам упраўлення культуры Мінгарвыканкама Віталінай Рудзікавай, гаворыцца, што дадзенае пытанне неаднаразова разглядалася адмысловай камісіяй Мінгарвыканкама, а таксама абмяркоўвалася грамадскасцю і зацікаўленымі арганізацыямі.

З ліста чыноўніцы вынікае, што жыхары горада накіравалі ў камісію больш за 30 калектыўных зваротаў супраць перайменавання станцыі метро «Плошча Леніна».

«Прымаючы да ўвагі неадназначныя меркаванні жыхароў горада, камісія, якая ўпаўнаважаная ў адпаведнасці з рашэннем Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў ад 12.03.2008 №127 прымаць рашэнні аб перайменаванні складовых частак г. Мінска толькі з улікам станоўчых меркаванняў жыхароў горада, прыняла рашэнне захаваць існуючую назву станцыі метро «Плошча Леніна».

***

Станцыя метро «Плошча Леніна» запрацавала ў 1984 годзе. У 1992-м была перайменаваная ў «Плошчу Незалежнасці». Гэту назву насіла да 2003 года, калі ёй вярнулі савецкую назву. Тады кіраўніцтва метрапалітэна заявіла, што назвы «Плошча Незалежнасці» па дакументах ніколі афіцыйна не існавала.

У сакавіку 2010 Мінгарвыканкам агучыў рашэнне афіцыйна перайменаваць станцыю метро, а таксама шэраг вуліц сталіцы. Аднак у маі таго ж года стала вядома, што змена назваў адкладаецца па прычыне змены складу Мінгарсавета і негатыўных водгукаў з боку пенсіянераў і ветэранскіх арганізацый.

**Сямён Печанко**

# Не за тых было сорамна, або Хто ж зарабіў на ажыятажы

Начальнік галоўнага ўпраўлення УБЭЗ расказаў, хто **вывозіў цукар**.

Пры канцы мая мінулага года, калі беларусы змяталі з паліцаў прадукты, Аляксандр Лукашэнка заявіў на ўрадавай нарадзе, што яму «сорамна за беларускі народ, які стварыў у краіне ажыятаж».«Я хачу звярнуцца да людзей: спыніце ў сваіх кватэрах, гаражах і падвалах ствараць склады,» — казаў тады Лукашэнка.

У самым пачатку 2012 года начальнік галоўнага ўпраўлення барацьбы з эканамічнымі злачынствамі МУС Эдуард Нікіцін у інтэрв'ю расказаў, хто летась зарабіў на ажыятажы.

За кошт задавальнення гандлем ажыятажу вакол цукру, на экспарт у 2011 годзе не адгрузілі 90,3 тыс. т на суму $79,5 млн., паведаміў у гутарцы пра асаблівасці цяневой эканомікі Эдуард Нікіцін. Ён задаецца пытаннем, на якім этапе ў ланцужку ад вытворцы да спажыўца знік цукар, які насамрэч адсутнічаў у крамах.

«Наіўна было б меркаваць, што асноўную долю скупілі грамадзяне праз прылаўкі», — адзначае міліцэйскі начальнік і падмацоўвае свае сумневы канкрэтным прыкладам. Праваахоўнымі органамі высветлена, што ў чэрвені мінулага года толькі Нясвіжскае райспажыўтаварыства набыла у ААТ «Гарадзейскі цукровы камбінат» для розніцнага гандлю 101 тону цукру. У крамы раёна трапілі толькі 9 тон, астатняе паехала ў Смаленск.




Каб схаваць гэты факт, у цэнтральную касу арганізацыі ўнеслі 427 мільёнаў рублёў нібыта за рэалізаваны ў Беларусі цукар.

Начальнік упраўлення канстатуе, што такая практыка носіць сістэмны характар і гэта пацвярджаецца шматлікімі фактамі.

**СП**

**Карупцыя ў будаўніцтве: на скрадзенае за год можна збудаваць яшчэ адну «Мінск-Арэну»**

Начальнік галоўнага ўпраўлення барацьбы з эканамічнымі злачынствамі МУС Эдуард Нікіцін расказаў, якія галіны эканомікі з'яўляюцца найбольш крымінагеннымі.

«Да іх варта аднесці тыя сферы, дзе размяркоўваюцца сотні мільярдаў бюджэтных сродкаў. У першую чаргу, гэта будаўніцтва, сельская гаспадарка, перапрацоўчая прамысловасць», — адзначыў Эдуард Нікіцін. Ён прыводзіць у прыклад ацэнкі міжнародных арганізацый, якія ладзяць маніторынг за ўзроўнем карупцыі ва ўсім свеце. Згодна разлікаў, у сектары будаўніцтва на долю хабару прыпадае ад 5 да 30% ад агульных выдаткаў на ўзвядзенне аб'екта.

«У 2010 годзе, напрыклад, за кошт сродкаў бюджэтаў усіх узроўняў на будаўніцтва сумарна затрачана звыш 4,3 трлн рублёў. Нават калі браць сярэднюю ацэнку карупцыйнага складніка (17%), можна канстатаваць, што за год каля 730 млрд рублёў бюджэтных грошай выведзена ў нелегальны зварот. А гэта не нашмат перавышае агульны кошт такога аб'екта, як «Мінск-Арэна», або роўна па кошце 60 тыпавых панэльных дамоў у горадзе Мінску», — заявіў Нікіцін.

# Штодня на аднаго дэпутата дзяржава траціць 1 мільён рублёў

Агулам сёлета на дзейнасць нацыянальнага сходу з бюджэту выдзяляецца звыш **64 мільярдаў рублёў**.

У бюджэце краіны на 2012 год карэспандэнт знайшоў, колькі грошай сёлета пойдзе на палату прадстаўнікоў і савет рэспублікі. Сума не маленькая — 64 мільярды 81 мільён рублёў.

Дэпутатаў у нас 110, сенатараў — 68. Выходзіць, на кожнага з іх прыпадае па 360 мільёнаў у год, альбо па 1 мільёне ў дзень.

На што штодня траціцца гэты дэпутацкі мільён? Кіраўнік упраўлення інфармацыйна-аналітычнай працы палаты прадстаўнікоў Мікалай Ліс, пачуўшы пытанне, разгубіўся.

«Вы ведаеце, гэта ўсё: і будынак, і астатняе...»

У бухгалтэрыі палаты прадстаўнікоў увогуле адмовіліся размаўляць з журналістамі без дазволу не менш як спікера.

І толькі старшыня камісіі па ахове здароўя, фізічнай культуры, справах сям'і і моладзі Алег Вялічка паспрабаваў падлічыць, на што ідуць гэтыя грошы. Пачалі з дэпутацкага заробку.

«Ну, заробак, калі палічыць: дэпутатаў 110 і, па-мойму, чалавек 170 супрацоўнікаў сакратарыята — атрымліваецца прыблізна 300.

Калі памножыць на нейкі сярэдні заробак, мільёны 4–5 у сярэднім, то вось вам ужо палова той сумы, пра якую вы кажаце. Гэты заробак жадае быць значна лепшым — нават пяці мільёнаў няма».

Працягваючы падлікі, называе іншыя артыкулы: «Камандзіровачныя... А што больш? Ну, набыццё нейкага там стала, крэсла, яшчэ нечага — як у любой установе. Ніхто тут не шыкуе, паверце мне! Нармальныя ўмовы, але залатых унітазаў няма».

Народныя абраннікі хочуць яшчэ больш павялічыць расходы на сваё ўтрыманне. Яны ўжо прынялі ў першым чытанні законапраект "Аб унясенні зменаў у закон «Аб статусе дэпутата палаты прадстаўнікоў, сябра савета рэспублікі нацыянальнага сходу»". Ён прадугледжвае стварэнне адмысловага дэпутацкага фонду. З якога, да прыкладу, будуць кампенсавацца выдаткі на камандзіроўкі для памочнікаў дэпутатаў.

**Зміцер Лукашук, «Еўрарадыё»**

# 6 фактаў па справе Бяляцкага, пра якія маўчыць БТ

Афіцыйныя СМІ любяць распавядаць пра **маёмасць Алеся Бяляцкага**. Яго калегі агучылі інфармацыю, якая замоўчваецца ці скажаецца на дзяржаўным ТБ і ў газетах з мэтай дыскрэдытацыі зняволенага праваабаронцы.



Так выглядае «шыкоўны катэдж» Бяляцкіх у Ракаве.

Усе факты пацвярджаюцца афіцыйнымі дакументамі, якія знаходзяцца ў матэрыялах крымінальнай справы А. Бяляцкага і былі агучаныя падчас судовага пасяджэння.

### Факт першы

Двухпакаёвая кватэра, у якой пражывае сям'я Бяляцкага. Яна была набытая ў 1999 годзе ў выніку продажу дзвюх аднапакаёвых кватэр. Працуючы дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча (1988—1998), Алесь Бяляцкі атрымаў адну з кватэр па ордары Міністэрства культуры. Другую набыў у пачатку 1990-х, калі актыўна займаўся перакладчыцкай і выдавецкай дзейнасцю.

### Факт другі

Кватэра на праспекце Незалежнасці, 78а—48. У ёй месціцца офіс зачыненага ўладамі праваабарончага цэнтра «Вясна». Кватэра набытая ў 2000 годзе. Па ўзгодненым рашэнні рады праваабарончага цэнтра кватэра была аформленая на прыватную асобу: у ёй афіцыйна зарэгістраваны Алесь Бяляцкі. Дзякуючы гэтаму, праваабаронцы змаглі прапрацаваць у памяшканні апошнія адзінаццаць гадоў.

У дзяржаўных СМІ спецыяльна называюць сучасную рынкавую цану нерухомасці, якая значна вырасла за апошнія трынаццаць гадоў. На момант набыцця кватэра каштавала каля 23 000 даляраў.

### Факт трэці

«Шыкоўны катэдж» Бяляцкіх у мястэчку Ракаў. Ён уяўляе сабой адрамантаваную старую драўляную хату (таму яе неахвотна паказваюць па БТ). Лецішча набыта сям'ёй у 2005 годзе.

Адметна, што перыяд атрымання сродкаў А. Бяляцкім, які разглядаўся ў судзе, — 2007—2011. А набыццё маёмасці адбывалася ў 1999, 2000 і 2005 гадах адпаведна.

### Факт чацвёрты

«Шыкоўны аўтамабіль», які набыў А. Бяляцкі ў 2010 годзе. Гэта «Сітраен С-5» 2003 года выпуску. Ён быў увезены ў Беларусь з Літвы ў пашкоджаным стане. Ён каштаваў разам з мытнымі плацяжамі 3000 еўра.

Алесь Бяляцкі не мае правоў кіроўцы — машынай карыстаўся ягоны сын Адам. За ўдзел у жнівеньскай акцыі «стоп-бензін» Адам быў арыштаваны, а машыну вывезлі на штрафную стаянку, дзе яна знаходзіцца і цяпер.

### Факт пяты

За перыяд ад 1994 да 2008 г. інспекцыя па падатках і зборах Першамайскага р-на Мінска праводзіла праверкі прыбыткаў Алеся Бяляцкага і яго сям'і. Перавышэнне прыбыткаў А. Бяляцкага над ягонымі выдаткамі па выніках дадзеных праверак склала сума, эквівалентная 30 далярам. Перавышэння выдаткаў над прыбыткамі ў іншых членаў сям'і не выяўлена. А менавіта на гэты перыяд і прыпадаюць здзелкі з купляй маёмасці.

### Факт шосты

Грашовыя сродкі не апынуліся на рахунках, адчыненых А. Бяляцкім у Літве і Польшчы, а былі пералічаныя на іх шэрагам фондаў згодна з двухбаковымі дамоўленасцямі паміж фондамі і ПЦ «Вясна». Атрыманыя сродкі выдаткоўваліся арганізацыяй на праваабарончую дзейнасць. Справаздачы былі дадзеныя фондам, якія не выказалі ніводнай прэтэнзіі. Такім чынам, грашовыя сродкі з рахункаў, адкрытых на імя А. Бяляцкага, не з'яўляюцца ягоным асабістым прыбыткам і не падлягаюць падаткаабкладанню.

**Паводле spring96.org**

**Грошы для Бяляцкага практычна сабраныя**

По інфармацыі праваабаронцаў, за дваццаць дзён сабралі каля 730 млн рублёў. Выплата сумы можа паўплываць на змякчэнне прысуду Алесю Бяляцкаму. Згодна з рашэннем суда, Бяляцкі павінен выплаціць 757 млн 526 тыс. 717 рублёў. Пералічыць грошы можна на рахунак: Філіял №529 «Белсувязь» ААТ «АСБ Беларусбанк», код банка 720, аддзяленне 112; код плацяжу: 3819382100776; № банкаўскага ўкладу: 01053568; від плацяжу: ахвяраванне (альбо добраахвотны плацеж). Атрымальнік плацяжу: Пінчук Наталля Сяргееўна.

## «Катаваць перасталі ў сакавіку…»

**Палітвязень Аліневіч** расказаў пра катаванні ў турме.

У лісце да сястры Ігар Аліневіч апісаў здзекі за кратамі.

«...Пасля Плошчы пачаўся масавы прэс. У СІЗА нагналі карнікаў у масках. Пастаянна раўлі, рэгулярныя шмоны. Гэта душыла волю.

Пасля Новага года збілі тройчы за непадпарадкаванне зневажальным загадам. Ініцыятарам гэтай «творчасці» стаў начальнік СІЗА КДБ Арлоў. Забралі ТБ. Пасля вярнулі, але круцілі перадачы пра ўсялякую містыку, чачэнцаў, жыдамасонскую змову і іншае. Гэта моцна ціснула на псіхіку, але гля-дзець — абавязкова. Адвакатаў не пускалі да канца следства. Бліжэй да лютага [2011] пачалося ўзмацненне жорсткасці. Прымушалі голым стаяць на падлозе, без мэты прысядаць, некаторых клалі проста тварам. Але самае жорсткае — бег з рэчамі і матрацам па калідорах і лесвіцах. Я ў выніку плюнуў і адмовіўся: вырашыў «ускрыцца», каб паехаць у бальнічку. Але начальнік «прахáваў» усё, бо ў іх у камерах відэаназіранне і псіхолагі, якія рэгулююць узровень ціску на чалавека. У выніку самыя жорсткія катаванні знялі, а да сакавіка і зусім адмянілі.

Але ўсё перажыў нармальна. Час бавіў за чытаннем энцыклапедыі па псіхалогіі, навучаннем маляванню па дапаможніку, гульнямі ў шахматы і даміно, фізухай.

Яшчэ зімой я ведаў, чым усё скончыцца, і нават змірыўся. На судзе больш быў рады магчымасці ўбачыць бацькоў, сяброў і, канечне, сваіх таварышаў, якія духам не палі. А таксама паглядзець у вочы тым баязліўцам і здраднікам, якія мяне сюды пасадзілі.

Калі з'язджаў на Валадарку, начальнік СІЗА прыйшоў у камеру. Гаварыў пра несправядлівы прысуд і прапанаваў застацца ў іх на прывілеяваных умовах хакерам працаваць. Абяцалі ноўтбук. Пасля, калі адмовіўся, прапаноўвалі ў персанал абслугі пайсці. Танныя метады.

...Ты ведаеш, уся гэтая сітуацыя з пратэстамі, арыштамі, палітзэкамі і падобнае дабротна ўплывае на соцыум. Людзі пачалі знаёміцца ў ізалятарах, падчас пратэстаў, пры абмеркаванні акцыі і пры салідарнасці з палітвязнямі. Летнія пратэсты з'явіліся з самога народу — апазіцыя да іх не мае дачынення. Лета — толькі рэпетыцыя. Больш буйныя падзеі наперадзе.

Самае галоўнае, каб ты не думала, што я тут пакутую. Зразумей, у мяне сумленне чыстае. Змагаўся за праўду смела, трымаў адказ прыстойна. Мяне любяць і паважаюць. Так што на душы лёгка і радасна, а асабісты досвед і карысныя знаёмствы ўзбагаціліся, напэўна. Засталося прайсці толькі выпрабаванне часам. Яно адкіне ўсё лішняе і непатрэбнае, і я выйду зусім цэласным чалавекам».


Акцыя салідарнасці ў Цюрыху 19 снежня 2011. Швейцарцы з партрэтамі беларускіх палітвязняў: Аляксандра Францкевіча, Ігара Аліневіча, Паўла Севярынца.

**Ігар Аліневіч**

асуджаны на 8 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Яго абвінавацілі ў арганізацыі шэрагу акцый у 2009—2010: антымілітарысцкага шэсця пад Мінабароны, нападзе на казіно «Шангры Ла», падпале дзвярэй філіяла «Беларусбанка», нападзе на пасольства Расіі ў Мінску, нападзе на ізалятар на Акрэсціна. Вінаватым сябе не прызнаў. Напісаць яму можна на адрас: 211440 Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8, ПК № 10.



**Севярынцу споўнілася 35**

Свой дзень нараджэння змагар сустрэў у коле сям'і. Кіраўніцтва «хіміі» праявіла гуманізм: палітвязня ўпершыню адпусцілі дахаты ў адпачынак. Ён адбывае пакаранне абмежаваннем волі ў вёсцы Куплін Пружанскага раёна.

35 гадоў для палітыка — важны рубеж, бо дае права балатавацца ў прэзідэнты. Аднак ва ўмовах дыктатуры гэта хутчэй азначае новыя пагрозы, бо дыктатар імкнецца нейтралізаваць кожную альтэрнатыву.

Новы артыкул Паўла Севярынца — **старонка 12**.

## Аўтуховіч пачуваецца нармальна?

Але цяпер ён **ізаляваны ў ПКТ**.

Па інфармацыі праваабарончага цэнтра «Вясна», Мікалай Аўтуховіч змешчаны ў памяшканне камернага тыпу (ПКТ) на адзін месяц. Падставай стаў шэраг вымоў за парушэнне парадку за мінулы год: нявыхад у клуб на выхаваўчае мерапрыемства, неаднаразовае парушэнне распарадку дня, непрыбыццё ў сталовую ў складзе атрада. Цягам 2011 года Аўтуховіча каля дваццаці разоў выклікалі на прафілактычныя гутаркі да адміністрацыі івацэвіцкай калоніі.

Паводле праваабаронцаў, не пацвердзілася інфармацыя, што палітвязня падсаджвалі ў камеру да асобаў з нізкім статусам. Гэта лічылася падставай да спробы самагубства. 11 снежня Мікалай Аўтуховіч парэзаў сабе вены. У «Вясне» ж прычынай такога ўчынку называюць бяздзеянне адміністрацыі калоніі на скаргі палітвязня.

У канцы снежня Наста Кухарэнка, якая перапісваецца з палітвязнем, атрымала ад Аўтуховіча ліст, у якім ён папрасіў не турбавацца за яго і больш пісаць. «Як бы там ні было, я ўсё вытрымаю. Я сам моцны, а яшчэ крыху тваёй моцы і ўпартасці, і ўсё будзе добра. Не хвалюйся, я ў парадку. Камусьці падабаецца жыць, як у 37-м годзе, але толькі не мне. Крыху прыйшлося адстойваць свой гонар званця чалавекам, а не жывёлай. Ну інакш ніяк, не разумелі, не чулі». Аўтуховіч напісаў, што знаходзіцца цяпер у «камандзіроўцы», з якой можна пісаць лісты, у адрозненне ад папярэдніх.

**КМ**

**Пісаць Мікалаю Аўтуховічу**

можна на адрас: 225293 Брэсцкая вобласць, г. Івацэвічы-3, ПК-5, атрад 13.

# Чыя скура?

Мінчук знайшоў у салямі «Амарэта» пасму поўсці. **Няўжо пацук?**

– падумаў ён, бо масць была акурат шэрая.

Адказныя асобы мясакамбіната нічога страшнага ў знаходцы не бачаць. «Ну, гэта адназначна не пацук. Гэта, магчыма, рэшткі шчаціння з галавізны», — адказвала журналістам намесніца дырэктара прадпрыемства па вытворчасці Вольга Барысевіч. Адзін з падпісчыкаў «Нашай Нівы», былы супрацоўнік Баранавіцкага мясакамбіната, нашы сумневы таксама развеяў.

«Гэта бычок». А з усіх размоваў, што, маўляў, «калі ўранку на камбінаце ўключаюць станкі, то толькі піск і хрумст касцей, бо пацукі не паспяваюць разбегчыся з механізмаў станка» (так напісаў адзін наш чытач на сайце), ён толькі пасмяяўся.

«Вы сваю мясарубку як часта мыеце? І як часта разбіраеце? — перапытаўся ён. — Калі крыжападобныя нажы і рашоткі не памыць хаця б раз на дзень, яны заржавеюць. Іх мяняюць некалькі разоў на дзень. Ранкам яны стаяць пустыя і вымытыя — і не толькі нажы, але і шнэкі таксама. А стэрэатыпы... Яны ў людзей засталіся з савецкіх часоў».




Сяргей Гезгала

# Азаранка адмовілася выйсці замуж



**«Я адказала яму «не»**, дадаўшы, што я не з яго лігі».

Беларуская тэнісістка Вікторыя Азаранка цяпер працуе ў аўстралійскім Сіднэі, дзе пачаўся тэнісны турнір Apia International Sydney (Вікторыя стартавала на ім з перамогі). У сваім Twitter'ы яна расказала смешную гісторыю.

«З раніцы я адправілася выпіць кавы. І тут да мяне зніадкуль падышоў нейкі хлопец і спытаўся, ці не хачу я выйсці за яго замуж проста сёння... Я адказала яму «не», дадаўшы, што я не з яго лігі. Я так сказала, каб ён адчуў сябе прыгожым і асаблівым. Але не думаю, што мне гэта ўдалося. Ха-ха-ха», — напісала Вікторыя.

АГ

# Ёй было 24

У Маскве загінула выпускніца Коласаўскага ліцэя **Воля Гудкова**.

24-гадовую дзяўчыну на вуліцы збіў аўтамабіль. Яна памерла ў рэанімацыі.

Вольга скончыла Коласаўскі ліцэй. Яе навучанне там прыпала акурат на самы складаны час — якраз тады Мінадукацыі сваім рашэннем ліквідавала ўстанову і Ліцэй мусіў сысці ў падполле. Яе сям'я актыўна ўдзельнічала ў абароне Ліцэя.

Пасля Ліцэя Вольга паступіла ў БДУ. Пасля БДУ яна навучалася ў магістратуры факультэта сацыялогіі Нацыянальнага даследчага ўніверсітэта Вышэйшай школы эканомікі ў Маскве.

«Еўрарадыё»





**Фотафакт**

На цэнтральнай плошчы Нясвіжа, паміж гарадской ратушай і райвыканкамам, на снезе вытапталі гіганцкі надпіс ШОС.



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Пераходны перыяд

31 снежня, літаральна за некалькі гадзін да Новага года, раптам высветлілася, што недзе згубіліся лямпачкі на ёлку. У даволі нервовых пошуках я натыкнуўся на пашарпаную скрынку з-пад цукерак, а ў ёй — на паперкі, пра якія даўно забыўся. «Глядзі, чэкі, — з пэўным здзіўленнем вымавіў я. — Колькі яны тут праляжалі?» — «Бяжы па лямпачкі, — адазвалася жонка, — пакуль няма лямпачак, нельга вешаць цацкі...» — «Бяжы, бяжы... Ты ведаеш, колькі яны цяпер каштуюць? Тысяч 150, не менш... Слухай, а давай замест лямпачак гэтыя паперкі падвесім. Бачыш, як яны гараць сінім полымем? Вось маіх бацькоў чэкі, і сястры, і тваёй маці, і нашы з табой... Усё напрацаванае за іхняе і наша жыццё...» — «Не марнуй час, — разззлавалася жонка, — бяжы...»

Праз колькі хвілін я ўжо і праўда амаль бег на Камароўку, пакуль не трапіў у натоўп, сціснуты ў прыцемках падземнага пераходу.

Шукаючы сваю асабістую сцежку сярод мільгацення ног, я хістаўся з боку ў бок, пакуль не прыціснуўся да сцяны. І раптам пачуў нейкі дзіўнаваты гук.

Праз цяжкую вільгаць падзямелля, быццам аднекуль здалёк, даносілася, рэжучы слых, дрыготкая, з нейкай журботнасцю, мелодыя. Паціху, паціху, уздоўж сцяны, абмінаючы бабулек, што трымаюць на продаж шарсцяныя шкарпэткі, вязаныя хусткі і пластыкавыя абрусы, я праціснуўся да яе вытоку. Хлопчык мо гадоў дванаццаці павольна вадзіў смыкам па скрыпачцы, прыклаўшыся да яе пачырванелай шчакой

### Што за пачвара загнала і вядзе нас па цьмяным пераходзе? »

і час ад часу адкідваючы саламянага колеру чупрынку. Ён, мусіць, толькі вучыўся граць, бо я ніяк не пазнаваў мелодыю, пакуль ён не ўзяў чысцейшую ноту: «Ты ж мая, ты ж мая перапёлачка...»

Натоўп рухаўся і рухаўся, не запавольваючы кроку, абмінаючы раскладзены перад музыкам чорны футарал з пацёртым бардовым аксамітам. Не відаць быў аніводзін твар — толькі адзін твар натоўпу, агульны заклапочаны твар. Хто-ніхто, праўда, кідаў усё ж нейкія грошы. А я, забыўшыся пра лямпачкі, глядзеў і глядзеў на хлопца, на ягоны непаслухмяны смык і ўсё намагаўся зразумець, што ж адбылося ў гэтым пераходзе за доўгі час. Не «Раскинулось море широко...», не «День Победы», нават не «Стюардесса Жанна», якую мы з пісьменнікам Віктарам Казько чулі ў гэтым пераходзе на пачатку 90-х. «Культура пераходнага перыяду», — выдаў ён тады трапную фармулёўку. І вось здарылася, перайшлі — пачулі, нарэшце, беларускую песню...

Колькі ні жывём, думаў я, усё то маршыруем, то коўзаемся праз нейкі «пераходны перыяд».

І дзяды, і бацькі нашы ўсё пераходзілі да розных сацыялізмаў і камунізмаў «праз 20 год»...

І мы, ужо самі бацькі і дзяды, усё пераходзім да «незалежнасці і дэмакратыі» на чале з дыктатурай...

І вось ужо дзеці нашы і ўнукі пераходзяць і пераходзяць да ўсяго, што трапляе на гнуткі язык праўладных ідэолагаў і прапагандыстаў...

Што за пачвара загнала і вядзе нас па цьмяным пераходзе, ператвараючы нашы твары ў агульны твар то агрэсіўнага, то абыякавага натоўпу?

Здавалася б, што дрэннага: з аднаго боку — Філармонія, з другога — рынак. Хадзі туды-сюды, купляй кітайскія лямпачкі на яліну, слухай сусветную класіку, атрымлівай, хто як можа, асалоду ад жыцця...

Але чамусьці не ўдаецца.

...Пакуль думаліся пад «Перапёлачку» гэтыя думкі, хлопчык са скрыпкай некуды знік, я нават не паспеў аддзячыць яго хаця б малымі грашыма. Увесь тыдзень, да самых Каляд, я шукаў яго ў пераходзе, цешыўся надзеяй зноў пабачыць яго, каб спытаць імя і вярнуць доўг. Але не, цёмны пераход быў пусты...

Усё тут было як заўсёды ў прыгожы выходны дзень: і матулі з каляскамі, і юнакі з кветкамі да спаткання, і Якуб Колас у выглядзе нязграбнага помніка...

Вось толькі на Сымона-музыку я глядзеў ужо зусім іншымі вачыма.

# Айчына на скуры

**На сваёй скуры яны захоўваюць нацыянальныя сімвалы, якія заціраюць на тэлебачанні і збіваюць з муроў.**




Пагоня ёсць на грудзях у мінскага скінхэда Яўгена. Бачыў яе я і ў былога футбольнага фаната «Дынама-Мінск».

Чэрвень. Вузкі пад’езд ампірнай сталінкі на цэнтральным праспекце Мінска. Я ўваходжу ў кватэру з двара, дзе ў хатніх умовах майстар робіць татуіроўкі.

«Абутак можна і не здымаць», — кажа мне, і я абуваю медыцынскія бахілы. «Інтэр’ер і мяне не здымаць», — загадным тонам вызначаюць мне ўмовы фатаграфавання працэсу набіцця рэдкай татуіроўкі на спіне дзяўчыны. Пад трэск тату-машыны я пачынаю здымаць...

Зімой 2011-га, гледзячы на тое, як у наш час знішчаюцца і выціраюцца з памяці нацыянальныя сімвалы беларусаў, я шукаў вобраз, каб візуальна гэта адлюстраваць. Не навіннымі карцінкамі з судоў і разбураных помнікаў гісторыі, а з іншага, прыватнага, як кожная татуіроўка, боку.

І я пачаў фатаграфаваць людзей, якія робяць сабе татуіроўкі з Пагонямі і бел-чырвона-белымі сцягамі. На сваёй скуры яны захоўваюць тое, што цяпер заціраюць на тэлебачанні, спісваюць з бібліятэк і збіваюць з муроў...

Пра сімвалы можна памятаць, трымаць у галаве і перадаваць наступным пакаленням. Але выява на скуры робіць гэта лепш за памяць нейронаў — гэта іншая памяць.

Іголка машынкі з хуткасцю 50 уколаў у секунду выводзіць контур Пагоні на плячы. На скуры я заўважаю пухіры ад уколаў анестэтыкаў. Падцёкі фарбы і кроў змываюцца сурвэткай з растворам мыльнай вады. Плошча тату пакрываецца коркай ад параненых капіляраў — як у дзяцінстве ад падзення на асфальт. Калі яна сыходзіць, дарабляюцца дэталі — колер, цені і адценні.

Адзін вядомы мінскі татуіроўшчык патлумачыў: калі табе б’юць татуіроўку, ты павінен яе адчуваць. Адчуваць боль і аняменне — так яна робіцца сапраўды тваёй. Тое самае і з тату Пагоні — і балюча, і крыўдна, і кроў — усё, як у сучаснай Беларусі. І кожны верыць, што гэта не назаўжды. Назаўжды толькі нетыповае тату на плячы...

Людзей з нацыянальнымі сімваламі на целе нашмат болей, чым я ўяўляў. За год у Беларусі спецыялісты гэтай сферы робяць іх дзясяткамі. За паўгода здымкаў гэтай гісторыі я прысутнічаў на пяці розных сеансах — ад прафесійных студый да кватэр вольных мастакоў.

Хто людзі з такімі татуіроўкамі? Юрысты, актывісты, выкладчыкі, студэнты, беспрацоўныя, журналісты, будаўнікі, ультраправыя, левыя, анархісты, чырвоныя скіны, футбольныя хуліганы, тусоўшчыкі, мажоры і простыя хлапцы, якія адпрацоўваюць свае два гады ў СВК — ну вы зразумелі? Нацыянальныя сімвалы на скуры носяць беларусы. Цяпер іншая мэта — трэба рабіць нешта, каб іх захаваць, з рэштай разбірацца будзем потым.

**Тэкст і фота Сяргея Гудзіліна**



Аркуш паперы фармату А4 з раздрукаваным эскізам татуіроўкі.



Татуіроўшчык Зміцер ездзіць па замовах то ў Швейцарыю, то ў Маскву, а жыве ў Мінску. Калі бывае на радзіме — робіць і нацыянальныя татуіроўкі.



Адчуваць боль і аняменне — так яна робіцца сапраўды тваёй, ты ведаеш, як гэта табе далося. Тое самае і з тату Пагоні — і балюча, і крыўдна, і кроў — усё, як у сучаснай Беларусі.



Пухіры ад анестэтыкаў у кліента мінскага тату-салона. Плошча тату пакрываецца коркай ад параненых капіляраў — як у дзяцінстве ад падзення на асфальт.



Пра сімвалы можна памятаць, трымаць у галаве і так перадаваць наступным пакаленням. Але выява на скуры робіць гэта лепш за памяць нейронаў.

# Смерць на Каляды

**Тысячы расіян** адзначалі Новы год у Беларусі. Для некаторых гэта скончылася трагедыяй.

Сёлета ў Беларусь на зімовыя святы завітала рэкордная колькасць грамадзян Расіі — паводле звестак Міністэрства спорту, больш за 200 тысяч чалавек. Гатэлі, санаторыі, турбазы і аграсядзібы былі забраніраваныя расейцамі задоўга да Новага года. Напрыклад, госці з Расіі выкупілі ўсе месцы ў гатэлі Мірскага замка. Колькасць аўто з расійскімі нумарамі ў гарадах зашкальвала.

Рэкордная колькасць замежных турыстаў адбілася і на статыстыцы здарэнняў. Для некаторых калядныя вакацыі ў Беларусі скончыліся няўдачай. А для кагосьці — і трагедыяй. У большасці выпадкаў прычынай няшчасця былі аварыі.



112.BY

### Чорны тыдзень для BMW

У трох аварыях з удзелам нямецкіх аўто трое загінулі, чацвёра пацярпелі.

Неспрыяльнае надвор'е прывяло да ўсплёску аварый з цяжкімі наступствамі.

5 студзеня ўвечары ў Мінску на скрыжаванні вуліц Свярдлова і Бабруйскай БМВ урэзаўся ў гарадскі аўтобус МАЗ-103. Пасажырка БМВ (1993 г.н.) памерла на месцы здарэння, кіроўца (1991 г.н.) знаходзіцца ў рэанімацыі ў коме.

6 студзеня пад Баранавічамі БМВ, на колах якога была летняя гума, вынесла на сустрэчку. Там аўто сутыкнулася з «Волгай». Кіроўца і пасажыр (абодва 1990 г.н.) атрымалі траўмы галавы. Кіроўцу шпіталізавалі.

### Цэлымі сем'ямі

Многія расейцы на калядныя вакацыі былі ў Беларусі транзітам, кіруючыся на адпачынак на еўрапейскія курорты. 30 снежня ў аварыю пад Слуцкам трапіла сям'я з трох чалавек. У тым здарэнні загінуў кіроўца-беларус, расейцы патрапілі ў бальніцу.

Яшчэ адна сям'я з Расіі трапіла ў аварыю ў першы дзень новага года ў Бярозаўскім раёне. Пацярпела 13-гадовая дзяўчынка.

Спіс удзельнікаў ДТЗ папоўнілі жыхары Санкт-Пецярбурга. 4 студзеня ў Брэсцкім раёне кіроўца Nissan Navara з Пецярбурга збіў чалавека на дарозе.

**Рэкордная колькасць расійскіх турыстаў у Беларусі на Новы год — 200 тысяч »**

А ягоныя землякі, муж і жонка, якія адпачывалі ў Брэсце, самі сталі ахвярамі наезду. 9 студзеня каля Брэсцкай крэпасці нецвярозая жанчына на Volkswagen Polo выехала за межы дарогі і ўрэзалася ў лаву, на якой сядзела пара. Мужчына паспеў адскочыць, а ягоная жонка з пераломам ног трапіла ў шпіталь.

### Афіцэры на БМВ

Найбольш рэзананснай стала аўтаварыя з удзелам расійскіх афіцэраў у Мінску.

7 студзеня а 4-й раніцы на праспекце Незалежнасці у раёне Парку Чалюскінцаў БМВ 3-й серыі на вялікай хуткасці вылецела з трасы і ўрэзалася ў агароджу каля ўваходу на станцыю метро. Аўто, у якім знаходзіліся тры чалавекі, загарэлася. Кіроўца і адзін з пасажыраў загінулі, другі пасажыр трапіў у шпіталь. Пазней стала вядома, што яны былі афіцэрамі расійскай арміі, працавалі інжынерамі ваеннага прадстаўніцтва Міністэрства абароны РФ.

**Сямён Печанко**

### 13 дзюдаістаў атруціліся ў Ляхавічах

9 студзеня 13 расійскіх юных дзюдаістаў з Масквы трапілі ў Ляхавіцкую лякарню. Праз дзень 10 чалавек выпісалі. Пацярпелыя атруціліся.

### Расійскія дыгеры не дайшлі да мінскіх нетраў

2 студзеня ў Мінску была затрыманая група з 13 расійскіх дыгераў. Іх абвінавацілі ў дробным хуліганстве і далі суткі — ад 5 да 10. Паводле афіцыйнай версіі, маладыя людзі ўчынілі п'яны дэбош у гатэльным комплексе аўтавакзала «Усходні». Пры гэтым мінская міліцыя заявіла, што папярэдзіла пранікненне расійскіх дыгераў на ахоўваныя аб'екты сталіцы. Пасля адбыцця пакарання іх дэпартуюць і пазбавяць права наведвання Беларусі на 5 гадоў.

А як дазналіся пра намеры? Магчыма, турыстаў праслухоўвалі.

# Зніклую школьніцу шукаюць другі тыдзень

Крымінальная справа распачата па артыкуле «**забойства**».

13-гадовая Юля Ляшук з вёскі Лядзец Столінскага раёна не вярнулася дахаты з навагодняй дыскатэкі 1 студзеня. Каля гадзіны ночы дзяўчынка пайшла ў мясцовы Дом культуры. Калі ж бацькі пачалі яе шукаць, то знайшлі на дарозе побач з домам толькі яе мабільны тэлефон і некаторыя асабістыя рэчы. Звярнуліся ў міліцыю.

Высветлілася, што а 4-й гадзіне раніцы Юлю бачыла сяброўка. Яны разам вярталіся з дыскатэкі. Развіталіся на скрыжаванні каля Юлінай хаты. Што здарылася далей, невядома.

Пошукі дзяўчынкі пакуль вынікаў не далі. Хаця ў іх штодня бяруць удзел 150 чалавек: міліцыянты, выратавальнікі, суседзі. Вадаёмы, што знаходзяцца побач з вёскай, абследуюць вадалазы. У вёсцы працуюць паліграфолагі, якія правяраюць мясцовых жыхароў на дэтэктары хлусні. Правяраюцца людзі, якія могуць мець дачыненне да знікнення дзяўчынкі. Бацькі Юлі ў адчаі звяртаюцца да празорцаў.

Увечары 4 студзеня быў затрыманы мясцовы жыхар, якога падазравалі ў знікненні. На яго вопратцы знайшлі кроў. Але генатыпічная экспертыза вызначыла, што яна не належыць Юлі Ляшук. Мужчыну адпусцілі пад падпіску пра нявыезд. Новых затрыманых няма.

Заведзена крымінальная справа па ч. 1 арт. 139 КК (забойства). Па інфармацыі прэс-службы Следчага камітэта, праведзены каля 40 ператрусаў у межах заведзенай справы.

**Сяргей Макарэвіч**



### Прыкметы Юліі Ляшук

на выгляд 14—16 гадоў, рост каля 165 см, сярэдняга целаскладу, твар круглы, колер звычайны, валасы даўжынёй да плячэй, чорнага колеру, вочы шэра-зялёнага колеру.

Была апранута: куртка (пухавік) шэрага колеру, удоўжкі да каленяў, з капюшонам, на абляmoўцы капюшона маецца мех шэрага колеру, джынсы сінія, на падцяжках карычневага колеру, кофта ў палоску шэра-карычневая з капюшонам, трыкатажная, дробнай вязкі, шалік зялёны з ружовым, боцікі зімовыя шэрыя.

Тэлефоны, па якіх можна паведаміць інфармацыю аб дзяўчынцы: (01655) 21-232 (крымінальны вышук), (01655) 24-381 або 102.

# У забойстве падазраецца сямейная пара

Выстаўлена абвінавачванне па забойстве **дзяўчыны ў Будславе**.

Нагадаем, труп 25-гадовай Алесі быў знойдзены 9 снежня ў доме, які яна здымала. На целе загінулай знайшлі не менш як восем нажавых раненняў у грудзі і шыю, сінякі і раны. Забойца трапіў у хату да дзяўчыны праз акно (шыба была пабітая). Да хаты сямейнай пары міліцыянтаў прывёў службовы сабака.

Абвінавачванне ў забойстве прад'яўлена 31-гадовай раней судзімай жанчыне і яе 27-гадоваму мужу.

Алеся была з Кіраўска Магілёўскай вобласці. Пасля сельгасакадэміі прыехала па размеркаванні аграномам-садоўнікам на прадпрыемства «Ілаўскае».

**Кастусь Матушыч**

## Сцісла

### Школьнікі кралі Audi

У Воранаўскім раёне міліцыя затрымала траіх школьнікаў. Іх падазраюць у крадзяжы аўто. Малодшаму з групы нядаўна споўнілася 16, старэйшаму — 17. Хлопцы марылі пра нямецкія аўто, перавагу аддавалі Audi-80. Дзейнічалі па адной схеме: ехалі ў Гродна, выкрадалі аўто, каталіся на ім. Потым забіралі з легкавіка ўсё каштоўнае і кідалі аўто. Адна з машын па дарозе зламалася і прыцягнула ўвагу міліцыі. Тым часам крымінальная тройца вярнулася да «тачыла», каб яе рамантаваць...

### Таемна пахаваў маці і атрымліваў за яе пенсію

У снежні пазамінулага года ў Іўі 32-гадовы мужчына таемна пахаваў каля ўласнага дома сваю старэнькую маці. Цэлы год ён атрымліваў за памерлую пенсію. У мясцовым аддзяленні пошты тлумачыў, што маці хворая і не можа сама прыходзіць па грошы. Факт смерці жанчыны выявілі супрацоўнікі сацыяльнай службы. Заведзена крымінальная справа па ч.1 арт 209 КК РБ «Махлярства».

### Затрымалі за хабар

57-гадовага гендырэктара ААТ «Мазырсоль» Міхаіла Літвіна затрымалі ў працоўным кабінеце. Яму прад'яўлена абвінавачванне ў атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры за спрыяльнае рашэнне пытанняў, якія ўваходзяць у яго кампетэнцыю.

### Ад феерверкаў згарэлі 4 балконы

Чатыры балконы і часткова жылы пакой былі пашкоджаны агнём у жылым доме №40 на вуліцы Гінтаўта ў Мінску ўвечары 7 студзеня. Асноўная версія ўзнікнення пажару — выкарыстанне піратэхнікі. На момант узгарання ў кватэрах, дзе былі пашкоджаныя балконы, жыхары адсутнічалі. Пажарныя эвакуявалі 23 жыхароў пад'езда.

**Падрыхтаваў СП**




**Вось такія па-добраму хуліганскія стэнсілы з выявай нацыянальнага паэта Беларусі Максіма Багдановіча з’явіліся на мінскіх вуліцах.**

# І дзе ж тады Літва?

Археолаг **Сяргей Рассадзін** раскапаў старажытнае Лаўрышава.

У чым галоўная інтрыга? Як сцвярджае Іпацьеўскі летапіс, Лаўрышаўскі манастыр быў збудаваны ў XIII стагоддзі «на рацэ Нёмане між Літвою і Навагрудкам». Знайсці яго — значыць, з пэўнасцю даведацца, якія землі тады называлі «Літвой». Той Літвой, якая і дала назву магутнаму Вялікаму Княству Літоўскаму, Рускаму і Жамойцкаму.

Сучасная вёска Лаўрышава, якая ўзнікла ці то вакол, ці то на месцы манастыра, стаіць на паўночны ўсход ад Навагрудка, першай сталіцы Вялікага Княства, у бок Мінска.

Гісторыя ўзнікнення манастыра — загадка з многімі невядомымі. Царкоўная версія кажа, што заснаваў яго святы Елісей, які быў сынам літоўскага князя Траняты. Аднак, адзначае гісторык Генадзь Сагановіч, існаванне Елісея не пацверджана хронікамі. Яшчэ адзін прэтэндэнт — вялікі князь Войшалк, сын Міндоўга. Паводле Іпацьеўскага летапісу, ён заснаваў манастыр каля 1260-га, а Лаўрыш — яго хрысціянскае імя. Ёсць і трэцяя версія, выкладзеная ў «Хроніцы Быхаўца»: Лаўрыш быў сынам вялікага князя літоўскага Тройдзеня і меў паганскае імя Рымонт.

З усіх трох толькі пра Войшалка мы напэўна можам сказаць, што ён існаваў. І каля 1260-га, кажа Іпацьеўскі летапіс, сын вялікага князя Міндоўга якраз атрымаў магчымасць вярнуцца на радзіму з Халма, сталіцы валынскіх князёў, дзе ён жыў як закладнік. Галіцкавалынскія князі прэтэндавалі на Навагрудак і рабілі ўсё, каб тут кіраваў прадстаўнік іх дынастыі. Войшалк у Халме быў пастрыжаны ў манахі. Адпрасіўшыся ў паломніцтва на гару Афон, ён вярнуўся адразу на радзіму. Тады, паводле летапісу, ён і заснаваў Лаўрышаўскі манастыр, дзе не раз будзе знаходзіць прытулак у цяжкія часы. Блізкасць да Навагрудка надавала манастыру палітычнае значэнне.

Што цікава: апісаныя факты з жыцця Елісея і Рымонта паўтараюць Войшалкавы: і высокае паходжанне, і гвалтоўная смерць. Усе версіі сыходзяцца ў тым, што манастыр паўстаў у XIII ст. і яго заснавальнік паходзіў з палітычнай эліты.

У XIV стагоддзі ў манастыры было створанае Лаўрышаўскае евангелле, на вокладцы якога, як лічыцца, выява заснавальніка. Лаўрыш паказаны не ў манаскай рызе, а як вой — з дзідай і шчытом. Праўда, некаторыя даследчыкі бачаць тут выяву святога Дзмітрыя Салунскага.

Пазней Лаўрышава рабавалі і палілі татары, а рака Нёман змяніла рэчышча. Урэшце манастыр быў перанесены, а ў пачатку XIX стагоддзя заняпаў і быў зачынены. Адрадзілі яго ў 1990-я на новым месцы, у вёсцы Гнесічы.

## Адшуканы пласт XIII ст.

Раскопкі, якімі кіраваў прафесар Рассадзін, вяліся ў ліпені-жніўні 2011 года і былі ініцыяваныя ігуменам Свята-Елісееўскага Лаўрышаўскага мужчынскага манастыра. У работах удзельнічалі студэнты Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі.

У працэсе раскопак знайшлі некалькі слаёў матэрыяльнай культуры, у тым ліку кахляныя печы і манастырскі посуд. Прынцыповае адрозненне ад ранейшых раскопак — адшуканы пласт XIII стагоддзя, часоў заснавання манастыра.

«У 1990 г. я праводзіў разведачныя раскопкі каля царквы ў Лаўрышаве, — кажа археолаг Алесь Краўцэвіч. — Там, а не каля Гнесічаў, сапраўды знойдзены вельмі цікавы культурны слой».

«Я не прэтэндую на адкрыццё Лаўрышаўскага манастыра, — сказаў Рассадзін карэспандэнту «НН». — Аднак нашы знаходкі ля вёскі Лаўрышава, у прыватнасці, узоры керамікі, прайшлі экспертызу і адносяцца яны да другой паловы XIII ст. Пры гэтым я разумею, што цудаў не бывае — ніякіх каменных палат мы там не знойдзем». Манастыр, як і 99% тагачаснай архітэктуры, мог быць толькі драўляным.

«Я мяркую, што гэта быў не манастыр, а скіт. Войшалк знаходзіўся ў ім і пры гэтым быў за 22 кіламетры ад Навагрудка — каб да сталіцы можна было лёгка дабрацца».

Салідарызуючыся з версіяй, што манастыр быў заснаваны Войшалкам, Рассадзін, аднак, даказвае, што «тут была не Літва па Ермаловічу, а праваслаўная Русь». Падчас відэабрыфінгу на інфармацыйна-аналітычным партале саюзнай дзяржавы прафесар кафедры гісторыі Беларусі і паліталогіі БДТУ абрынуўся на археолагаў, якія шукалі манастыр там, дзе «заведама немагчыма знайсці сляды праваслаўнай старажытнарускай культуры».

На думку большасці даследчыкаў, у той час у раёнах на правым беразе Нёмана яшчэ гаварылі па-балцку і трымаліся сваіх старых багоў. Таму Лаўрышава і стаяла «паміж Навагрудкам і Літвой». Тых балтаў вялікія князі хрысцілі ў каталіцтва ў XIV стагоддзі. Вёскі, дзе сёння каталікі пераважаюць, і пазначаюць арэал, у якім славяне асімілявалі балтаў найпазней. Са змяшэннем балтаў са славянамі, каталікоў з праваслаўнымі і паўстала сучасная беларуская народнасць.

**Юрась Ускоў, Сяргей Мікулевіч**

**Сціслa**

### 8 Сакавіка канцэрта не будзе

Паводле інфармацыі Music.fromby.net, выступ Змітра Вайцюшкевіча не прайшоў узгаднення з начальнікам упраўлення сацыяльна-культурнай палітыкі Адміністрацыі прэзідэнта і намеснікам начальніка галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення адміністрацыі прэзідэнта Ірынай Дрыгай.

### Краіна атэістаў

Усяго 254 тыс. чалавек узялі ўдзел у багаслужэннях на праваслаўнае Раство. На каталіцкае Божае нараджэнне, у ноч на 25 снежня, храмы наведалі каля 240 тысяч грамадзян.

### «Меланхолія» Трыера — найлепшы фільм 2011-га

Узнагарода амерыканскіх кінакрытыкаў уплывае на выбар намінантаў на «Оскара». Іх абвесцяць 24 студзеня.

### Дэвіду Боўі — 65

Заснавальнік глэм-року адзначыў круглую дату 8 студзеня. За сваю кар’еру музыка стварыў 23 альбомы, памеры продажаў якіх дасягнулі 140 млн асобнікаў. Пасля перанесенай у 2004 годзе аперацыі на сэрцы Боўі значна скараціў лік выступаў.

**СМ**

**Кіно**

# Той самы Холмс

Шэрлак Холмс Гая Рычы захаваў галоўнае: **дух твораў** Конан-Дойла.

Што можа перамагчы Шэрлака Холмса ў XXI стагоддзі, хай сабе рэжысёр і робіць выгляд, нібы дзеянне адбываецца ў 1891-м? Чарга з кулямёта? Катаванні? Танк? Правільна, нічога, бо ён супергерой.

І колькі б ні лаяліся аматары касцюмных стылізацый, як бы паблажліва ні адгукаўся «сапраўдны Шэрлак Холмс», Васілій Ліванаў, — глядач у фільма Рычы будзе. Бо феерычныя эскапады Холмса ў выкананні Даўні — гэта тыя ж кананічныя пошукі прафесара Марыярці ці скарбаў Агры.

У свой час Ігар Масленнікаў, рэжысёр савецкіх «Прыгодаў Шэрлака Холмса і доктара Уотсана», паспрабаваў уявіць Холмса, якога стварыў Артур Конан Дойл,




Шэрлак Холмс. Гульня ценяў (Sherlock Holmes: The Game of Shadows).
У ролях: Роберт Даўні-малодшы, Джуд Лоў, Стывен Фрай, Джарэд Харыс і інш. Рэжысёр: Гай Рычы.

умудрыўшыся пры гэтымператварыць аўтсайдара ў добрапрыстойнага эсквайра. Гай Рычы пайшоў далей: ён паказаў гледачам Холмса, які мог бы атрымацца ў сэра Артура, калі б той карыстаўся камп’ютарам ці набіраў свае дэтэктывы на смартфоне.

А ў адрозненне ад серыяла BBC «Шэрлак», герой якога пераносіцца ў наш час, Гай Рычы стварае постмадэрнісцкі фільм фарбамі канца XIX-га. Бо для тагачасных чытачоў Дойла Шэрлак Холмс быў тым яшчэ фрыкам — дзікім, але абаяльным. А што Даўні? Таксама дзікі. І абаяльны.

Смерць улюбёнца ў Райхенбахскім вадаспадзе чытачы перажыць не маглі і засыпалі лістамі Дойла, які стаміўся ад поспеху свайго ненармальнага героя і вырашыў яго забіць. Сама каралева Вікторыя папрасіла для Холмса памілавання. Гай Рычы лістоў ад абураных гледачоў не чакаў — ён увогуле любіць свайго героя больш, чым класік, і таму дазваляе Шэрлаку Холмсу і доктару Уотсану ўсё: абрынуць вежу, узарваць цягнік, парай патанчыць на балі і нават перажыць клінічную смерць. На меншае ў XXI стагоддзі мы не пагодзімся. А таму перад намі ніякая не падробка, а проста новы падыход да гэтага, відаць, самага жывучага героя сусветнай літаратуры — ні танкі яго не бяруць, ні марціры, ні постмадэрнізм.

**Ганна Янкута, Кацярына Мацеўская**



**«Ляпіс Трубяцкой» разам з «Крамбамбуляй» і Памідоравым далі запальны канцэрт у Маскве перад Новым годам. Забароненыя музыкі да канцэрта адгадавалі вусы. І абвесцілі, што збіраюцца іх «рэабілітаваць». Вусатым гледачам давалі зніжкі. Як прызнаўся Лявон Вольскі, па вяртанні ў Мінск ён «з задавальненнем пагаліўся».**

# Беларуская глыбіня. Пракаповіч на Полі цудаў

Піша **Павел Севярынец**.

*А той, хто атрымаў адзін талент, пайшоў і закапаў яго ў зямлю, і схаваў срэбра гаспадара свайго.*
*Мацвея 25:18*



**Павел Севярынец**
палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Паўз дарогу з Берасцейскай трасы на Пружаны — бясконцыя чароды яблыневых садоў. Дрэўцы маленькія, прыгожанькія — казка. «Галандскія», — са знаўствам кажуць тутэйшыя. Але чые?

— Пракаповіча, як чые?

М-м-м. Канечне. Вядома, што колішні кіраўнік Нацбанка Пятро Пятровіч Пракаповіч з гэтых краёў... Авой, якая цацачная імпартовая тэхніка!

— Ну, гаспадаркі Нацбанка. Не глядзі так: ягоныя. Ягоныя!

А далей вёсачка Казлы, адкуль Пятро Пятровіч родам, — альпійскай прыгажосці.

Пытанне, чыімі высілкамі і коштам у Пружанах у 2003-м адбыліся рэспубліканскія «Дажынкі», пабудаваныя лядовы палац, гатэлі і аквапарк, павісае ў паветры. Здаецца, увесь тутэйшы гламур, мадэрнізацыя і іншая бліскучая дарагоўля моўчкі глядзяць на вас еўрапакетамі — праз знакамітыя акуляры нашага Маркіза дэ Карабаса.

Народжаны ў 1942-м на Пружаншчыне (між іншым, тады тэрыторыя Трэцяга Рэйху, Рэйхскамісарыят «Украіна»), Пракаповіч карыстаецца паўсюднай павагай палешукоў. «Дзядзька — во! — кажуць. — Ціхі такі, маўчыць, слухае, усіх выслухае, а пасля — хоп і агучвае адзіна правільнае рашэнне». Проста цар Саламон, калі ўлічваць фотасесіі каля залатых зліткаў.

Хм. Толькі калі Пятро Пятровіч такі харошы, чаму ж ён не ў апазіцыі?

Пакуль адзін вядомы Пракопавіч пракопваў дарогу да ўлады праз плошчу і турэмныя сцены — наш Пракаповіч закопваў гэту самую ўладу, канвертаваную ў беларускія рублі, сярод тутэйшых тарфянікаў. Грошы, надрукаваныя для ўсёй Беларусі, вывозіліся ў Пружанскі раён, на запаветныя палі паміж Белавежскай і Ружанскай пушчамі, пагружаліся ў беларускую глыбіню — і крэкс, пэкс, фэкс! — з гэтых пяці пасеяных сольда праклёўваліся... не, чамусьці не залатыя дрэвы з манетамі 585-й пробы замест лісця, але такія налiўныя — нішто сабе — галандскія яблычкі, аграсядзібы, дзівосныя лісы Алісы, каты Базіліа ды скараспелыя алігархі.

На калгасы, куды ў свой час запампоўвалі тыя самыя сотні мільёнаў даляраў эмісійных нацбанкаўскіх грошай, узятых проста з паветра («Айчына», «60 гадоў БССР», які пружанцы называлі «60 гадоў без ураджаю», былы «Савецкі», а цяпер «Жураўлінае», скляпанае з пяці гаспадарак «Ружаны-Агра»), люд глядзіць з сумессю зайздрасці і пагарды. Зласловяць: калі згары сыпаліся «залатыя», хадзілі гогалем ды трэслі вясёлкавай статыстыкай. Гаспадары! А цяпер, калі Пятровіч сышоў, і пустыя рублі гукнуліся ўсёй краіне, спахапіліся — як жыць?!





Хтосьці казаў: «Дзе грошы, Саша?» Але надта цікаўным бурацінам, якія любяць соваць свой доўгі востры нос у прыгожыя намаляваныя палотны, каб даведацца, што ж там, за даматканым агмянём насамрэч, можна толькі параіць быць больш асцярожнымі: таямніцы Маркіза дэ Карабаса ахоўваюць пракуратура, міліцыя і невядомыя ў цывільным з незапамінальнымі рысамі твару.

Калісьці Сапегі, Радзівілы, Абрамовічы ды Храптовічы таксама ўкладалі багацце ў сваю зямлю — дагэтуль іхнія палацы ды сядзібы, фундаваныя імі цэрквы і касцёлы трымаюць на сваіх плячах неба панад Беларуссю.

А што застанецца тут ад Пятра Пятровіча?

Невыпадкова пасля адстаўкі Пракаповіча заўважылі на экскурсіі ў Ружанах, дзе паціху аднаўляецца замак Сапегаў...

У рэшце рэшт, і такіх цяперашніх магнатаў, як Пракаповіч, або берасцеец Аляксандр Машэнскі (што спансаруе будаўніцтва храмаў ды мінскае хакейнае «Дынама»), або бярозаўскі алігарх Юрый Чыж (што ўтрымлівае «Дынама» футбольнае), ці піцэрскі прадпрымальнік з беларускімі каранямі Мікалай Бурнас (што адбудаваў у Пушчы сядзібу «Белавежтур») — цягне і рана ці позна зацягвае беларуская глыбіня.

Бо ўсім, усім нам ляжаць у гэтай балоцістай, дзе пясчанай, дзе сугліністай, дзе тарфяной зямлі — праху, адкуль мы ўзятыя і куды вернемся — у чаканні Прышэсця. Заміраць. Прыслухоўвацца, як расце трава. Як цябе топчуць, памінаюць і забываюць... Ляжаць ціха-ціха, бышцам закапаным талантам, па якія ўрэшце сапраўдным Гаспадаром прыйдзе і спытае з кожнага па справах ягоных Госпад Бог.

*Куплін*

**Калі Пятро Пятровіч такі харошы, чаму ён не ў апазіцыі? »**

## Маладзёжны тэатр на костках

Знакавае будаўніцтва ў сталіцы вядзецца **на месцы Пярэспінскіх могілак**.

Здавалася б, часы бязбожнага савецкага вандалізму сышлі ў нябыт. Але ці не кожнае знакавае будаўніцтва ў сталіцы вядзецца зноў на костках — ці то гандлёвы цэнтр на плошчы Незалежнасці, ці піўны рэстаран ля касцёла Св. Язэпа... І вось цяпер зноў турбуюць людскія парэшткі, каб разбудаваць Маладзёжны тэатр на праспекце Машэрава.

Там адбываецца, як сведчыць пашпарт аб'екта, «рэканструкцыя тэатра з прыбудовай і перапланіроўкай». Замоўца прац — ААТ «Аб'яднаная дырэкцыя аб'ектаў, якія будуюцца» і Міністэрства культуры. Выконвае працы БУ-94 ААТ «Будтрэст №1»

Будынак тэатра (раней — кінатэатра «Спартак») быў пастаўлены на могілках, зачыненых у 1937-м. Але падчас вайны ў царкве Марыі Магдалены, якая месцілася на іх, аднавіліся службы і вакол працягвалі хаваць людзей. Царква паўторна была зачынена ў 1949. Было прынята і рашэнне аб ліквідацыі могілак. Магілы тысяч людзей былі сцёртыя з паверхні зямлі.

Гэтыя могілкі, званыя «Пярэспінскімі», былі аднымі з найстарэйшых у горадзе. Як Мінск быў забраны ў Расійскую імперыю, у 1795 г., для праваслаўных могілак была адмераная дзялка на Пярэспе, у прадмесці, што пазней пачало называцца Старажоўкай. У 1847 г. тут была збудаваная царква Марыі Магдалены.

Цяпер пра могілкі нагадвае Старажоўская брама ля царквы ды некалькі ацалелых пахаванняў. У 1970-я вялося праектаванне транспартнай магістралі акурат на месцы царквы. Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры здолела абараніць храм, а могілкі адстаяць не ўдалося. Праезд быў зроблены проста ў сярэдзіне цвінтара, пры будаўніцтве якога чалавечыя чарапы і косткі трамбавалі ў адхоны і вывозілі на сметнік. Пасля ўсё ж грамадскасць дамаглася стварэння тут ахоўнай зоны могілак. І ніхто таго рашэння не адмяняў пасёння!

Паводле найноўшага заканадаўства РБ, нельга праводзіць ніякіх будаўнічых работ на месцах пахаванняў. Здавалася, што мы паставілі кропку ў савецкай гісторыі бяспамяцтва. Але не. Шчыруюць, выкідаюць чыесьці парэшткі. Можа, сваіх жа родных. А можа і вашых? І пасля, седзячы ў прыцемках тэатральнае залы, мы будзем чые цені бачыць, якія паведу адчуваць спінамі?

**Сяргей Харэўскі**



**Калі вярстаўся нумар**

Як паведамлу ў аўторак прадстаўнік «Будтрэста №1», знойдзеныя будаўнікамі чалавечыя парэштркі аддаюць у царкву Марыі Магдалены. Іх пахаваюць на царкоўнай тэрыторыі.

# Слова да слова

Берагуць і захоўваюць нашу мову ад згубы і тыя, хто сёння гаворыць пабеларуску, і шматлікія пакаленні нашых продкаў, якія гаварылі на ёй. Яны карысталіся роднымі словамі.

Гэтыя словы — як свежы струменьчык крынічнай цуда-вады. Вось некалькі такіх слоў і ідыём, запісаных мною ад людзей:

**адкавяліць** — адрэзаць вялікі кавалак хлеба ці сала;
**ачалавечыцца** — ажаніцца;
**ашушкацца** — цёпла апрануцца;
**бабаніць** дождж;
**бохаць** — многа піць раз-пораз вады;
**бурвалак** — непаваротлівы мужчына;
**бясклёчны** — бесталковы;
**выскрыпаць** — выстудзіць хату, раз-пораз ходзячы сюды-туды;
**гопала** — таўсматы чалавек;
**гром-баба** — таўсматая, непаваротлівая жанчына;
**другім навaратам** — паўторна;
**душы паслухаючы** — з задавальненнем;
**жадзёба** — скнара;
**закаблук, закаблучны** — мужчына «пад каблуком» у жонкі;
**зрэзацца** — моцна пасварыцца;
**каламазнік** — брудны, неахайны чалавек;
**каму нага, каму галава** — жорсткая бойка паміж сваімі;
**махнуцца** — хутка схадзіць, з'ездзіць куды-небудзь і пабыць там нядоўга;
**на шэнды-брэнды** — на абы-што (патрацiць грошы);
**растапырыць храпы** — разлавацца;
**у даўгу, як у вянку**;
**ухват** — спрытны, настырны сабе на карысць;
**цыцоха**;
**шкірыць зубы**...

Я здавён збіраю рэдкія беларускія слоўцы. Назбіралася ўжо больш шасцісот «пацеркаў», бо не-не ды і занатоўваю слоўца-другое ці перапамінаю, як гутарыў з маці. Нават выдаў невялікую кніжачку матчыных слоў. І мусіць, гэтаму не будзе канца. Вось што значыць сваё, роднае, кроўнае — захаванае ў душы!

**Вячаслаў Мілкоўскі, Мінск**

### Глядзячы з турмы

Маральны пункт невяртання ў цяперашняй Беларусі пройдзены, і ўся надзея на Міжнародны трыбунал.

**Ігар Міхнавец, Івацэвічы, турма**

### Дзяўчына і жанчына

Ужо не першы раз звяртаю ўвагу на тое, што на старонках «Нашай Нівы» сталі трапляцца на вочы выразы кшталту: «Цяпер дзяўчына на дзявятым месяцы цяжарнасці». Гэта непісьменна. Але на старонках «НН» можна сустрэць і такое: «Дзяўчына, у якой ёсць два дзіцяці».

**Генадзь Шэршань, Мінск**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам. **Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29**

# Мой анёл паляцеў на неба

Працяг са старонкі 2.

Таню пахавалі побач з яе бабай Тацянай і дзедам Васілём. Калі летась на Радаўніцу мы даглядалі іхнюю магілу, дык прыселі на грудку побач. Грудок быў несапраўднай магілай. Гэта Таніна цётка Люба з Турэц-Баяраў так хацела пахавацца да сваіх і наўмысна падсыпала грудок. Але пахавалі яе з сям'ёй, у Турэц-Баярах. А грудок застаўся, нібы адмыслова для Тані.

...

На тое, каб скончылася ўсё ранейшае жыццё, хапіла трох секундаў. І раптоўнага чорнага лёду на дарозе.

Мы нікуды не спяшаліся, машына была ў добрым стане, на добрай зімовай гуме. Мы праехалі трыста км, заставалася сто. Да паўночы прыязджаем дахаты, можна не гнаць і размаўляць пра Зойку [нованароджаная ўнучка, з хрэсьбінаў якой Дубаўцы ехалі — Рэд.], Адэльку [дачка — Рэд.] і ўсіх і ўсё на свеце. Асабліва пра супольныя планы, якіх у нас мора. Хіба толькі палітыка ўносіла дысананс у гэтае проста шчасце. Някляеў збіты і ў турме. Таня будзе рабіць пра яго фільм, каб распавесці свету пра бясчынства ў Беларусі.

Праехалі Нёман. На спуску машыну заносіць, разварочвае і сустрэчны бусік улятае нам ззаду і збоку. Тры секунды. Роўна, каб Таня сказала: «Што адбываецца?» — і, не атрымаўшы адказу і не зразумеўшы, што адбываецца, пакінула мяне і ўсіх нас. Тры секунды кажуць мне пра тое, наколькі крохкае гэтае жыццё і гэтае шчасце. Наколькі, бывае, ад нас не залежыць нічога.

Пасля ўдару я апынуўся на заднім сядзенні, а Таня засталася сядзець на сваім месцы. Я паклікаў яе, яна не адказала. Я памкнуўся да яе, але перш падышоў да яе маладзён, кіроўца бусіка, які назваўся доктарам. Ён агледзеў Таню. «Нет больше твоей Танечки». Ён выклікаў хуткую, якая прыехала праз тры хвіліны і пацвердзіла, што «нет». 27 снежня 2010 года.

...

Кіроўца бусіка ехаў з сяброўкай. І я думаю пра тое, што ў нашага сутыкнення магло быць шмат іншых вынікаў. Маглі пацярпець усе, мог пацярпець нехта з бусіка, мог не пацярпець ніхто. Але атрымалася так, што ў «чыстай рэшце» ўсё на свеце засталося, як было, толькі раптам не стала Тані. Быццам паводле нечага плана або суроку. Раз... і ўсё працягваецца, толькі без яе.

...

Дваццаць шэсць гадоў нашага супольнага жыцця. Можа быць, апошнім часам занадта насычанага. Мы літаральна кожны дзень кудысьці ехалі, ехалі, ехалі...

...

За 17 гадоў за стырном я безліч разоў трапляў на лядовыя дарогі, але тут і не дарога была, а менавіта кавалак лёду.

Мы ехалі 80 км пры магчымых 90. Ніякіх абмежавальных ці папераджальных знакаў не было. І льду не было ні да таго месца, ні пасля, у чым я пераканаўся, калі пазней дабіраўся да Вільні. Хутчэй за ўсё, лёд на гэтым схіле ўтварыла вільгаць, нагнаная з вялікай ракі. Пазней мне казалі, што гэтае месца здаўна праклятае. Словам, паліцыі доўга разбірацца не прыйшлося. Следчы, толькі выйшаўшы з машыны, упаў.



ДЗЯНІС РАМАНЮК

Таццяна Сапач і Сяргей Дубавец. 2005 год.

...

Гадоў пяць таму Таня стала збіраць фігуркі анёлаў. Мяне гэта трохі дзівіла, бо схільнасці да калекцыянавання ці якога фетышу яна была пазбаўленая начыста. Але вось — дзясяткі фігурак на розных паліцах, з кераміні, саломы, паперы і невядома з чаго яшчэ. Вобразныя, «адухоўленыя» або проста забаўныя. Анёлы з'явіліся на падушачках на канапе. Анёлы набываліся ў падарункі, якіх Таня рабіла мноства і з любой нагоды. Можа быць, яна інтуітыўна атачала сябе сваімі?

## Сэнс жыцця — у тых, для каго жывеш »

На сорак дзён мы замовілі службу ў Петрапаўлаўскім саборы ў Мінску. Я стаяў са сваімі думкамі і раптам зразумеў, што перада мной — палічка з анёламі, быццам перанесеная сюды з хаты, — дзясяткі фігурак з керамікі, саломы, паперы...

...

Пасля ўсяго сястра сказала: «Танечка не хацела вяртацца ў Вільню». Пра пераезд з Вільні мы гаварылі заўсёды. Мы любілі гэты горад, але ў жыцці мусіў быць рух, перамены, пярэбары ў іншую сітуацыю. У самой Вільні мы за дваццаць гадоў змянілі пяць адрасоў. Асабліва рашуча гаварылі пра пераезд апошнім годам. Ездзілі ў Заслаўе глядзець там жытло, размаўлялі з рыэлтарамі, нават аддалі Валеру Самусёнку ключ ад кватэры, каб паказваў яе на продаж. Але пакупнік не знаходзіўся, наша чаканне цягнулася год. Ясна, што калі б хата прадалася, мы б адразу пераехалі ў Мінск ці пад Мінск. Мы жылі гэтым пераездам, і чаканне рабілася крытычным. Да таго ж і пераезд у Мінск не выглядаў жаданым альбо сэнсоўным. Проста гэтая стабільнасць стала невыноснай і ёй, і мне. Мы мусілі зрушыць з месца.

...

Таня хацела (і не хацела) здымаць дакументальнае кіно. Апошнім часам у яе было ажно тры замовы і тры задумы, але яна ўсяляк адкладала гэтую працу. Яе штотыднёвая перадача на тэлевізіі, якую яна рабіла дваццаць гадоў, прайшла ўсе магчымыя вяршыні творчасці. ...

У верасні Адэля з Паўлам падарылі нам тыднёвы побыт на [Куршскай] касе. Сезон скончыўся, але было яшчэ зусім цёпла і здавалася, што мы апынуліся ў раі. Мы купаліся ў моры, бясконца шпацыравалі і бясконца глядзелі фільмы, дасланыя Тані перад «Магніфікатам», куды яна неўзабаве паедзе ў журы. Ясна, што мы іх не проста глядзелі. Мы гаварылі, гаварылі, гаварылі. Тады ж я сказаў Тані, што адчуваю я ў гэтых размовах пра Бога, пра веру і пра людзей — дабрэю. Сам працэс дабрэння падабаўся мне. Я заўважыў, што няма падставаў злавацца на кагосьці, на каго злаваўся. Магчыма, гэта была памылка. Побач з безабароннай Танінай дабрынёю апынаўся такі ж безабаронны я. Мы не задумляліся пра тое, што існуем у свеце, дзе ёсць таксама і зло, падступства, а таксама людзі, якія з усіх сілаў могуць жадаць нам няшчасця. Мы адкрыліся ў сваёй дабрыні і абяззброіліся. Жыць гэтак было зусім камфортна і радасна. Я перастаў думаць пра затоеную ў некім нянавісць, дурату або злосць. Але ад таго ўсё гэта існаваць не перастала.

...

Калі я глядзеў на паўтарамесяцовую Зойку, якая відавочна намагаецца нешта сказаць, я разумеў, што яна хоча гэта сказаць адтуль, адкуль прыходзіць яе душа, адтуль, дзе цяпер Таня, можа быць гэта нейкія Таніны словы яна хоча сказаць. Але нябачная сцяна раздзяляе нашы вымярэнні. Таму сэнсу гэтых словаў мы не можам пачуць і зразумець. У гэтай недасяжнасці закладзеная пакутная неперааддольнасць той нябачнай сцяны.

...

Таня была не мышкай, не коткай і нават не зайчыкам. Яна была ластаўкай. Ці вы бачылі ластаўку? Яна жыве ў дзесяць разоў хутчэй за іншых. Мабыць, і пражывае сваё жыццё хутчэй...

...

У яе вершах я знаходжу шмат прадказанняў ды шмат знакаў таго, што і як адбудзецца.

Надыдзе снежань, і аднойчы ранкам
я раптам анічога не пазнаю:
адменіцца і дзень, і свет, і дом —
і я сябе, напэўна, не пазнаю...

На сорак дзён у Маркаве мы са шваграм насілі сталы ў Танін бацькоўскі дом. Было сутонне. Але каля варотцаў сядзібы на снезе добра быў відаць кінуты некім скамечаны ручнік. Звычайны просценькі кухонны ручнік з малюнкам. У незвычайным месцы і ў незвычайны час. Як цытата з верша.

## Анёламі не нараджаюцца, проста з гадамі нехта ператвараецца ў анёла »

О, гэта ноч!.. Стамляюцца змяняцца
сляпыя вочы вечных светлафораў.
І ацiхаюць шолахі шалёных,
з абпаленымі крыламі, мятлух,
і ўладны над дарогай павадыр
няшчаснага вандроўніка-нябогі
са смехам і шкадобаю камечыць
ручнік, што звязваў рухі іхніх рук...

Верш называецца «Адзінота».

...

Тры найбольшыя страты ў маім жыцці звязаныя з заўчасным сыходам жанчын, якія былі ўвасабленнем гэтага жыцця, яго асновай, ім самім. Заўчасная смерць мужчыны ўспрымаецца як чын у змаганні з ворагам, з абставінамі ці хваробай. Мужчына толькі дзеяч у тым жыцці, якое ўвасабляе жанчына. Таму заўчасная смерць блізкай жанчыны заўсёды ўспрымаецца як катастрофа.

Баба Хвядора, мама Зоя і Таня. Усе насілі прозвішча Дубавец, усе не мелі ў сабе дубаўцоўскай крыві. Усе адышлі гвалтоўна і раптоўна, трыццаць, дзесяць гадоў ці год таму. Насуперак звыклай логіцы, нібы гэта і сапраўды быў лёс ці сурок. І колькі ні праходзіць часу, адчуванне страты не прытупляецца, а застаецца з табою — быццам рука, якую калісьці страціў, быццам час, на які скараціўся твой дзень.

...

Пасля Тані я зразумеў, што сэнс жыцця — у тых, для каго ты жывеш. І больш ні ў чым.

...

Мы выехалі з Гайнаўкі ў самыя Каляды. Чаму ўвечары — прычына была адна. Назаўтра, у аўторак, а 12-й у Тані было дамоўленае інтэрв'ю са старэйшай літоўскіх пісьменнікаў Ліняўскасам, які перакладаў Някляева, пра Някляева, які сядзеў у «амерыканцы», інтэрв'ю салідарнасці. Ясна, што нашых гайнаўскіх гэта ніяк не пераконвала, таму паездка выглядала амаль як уцёкі.

...

Што такое «той свет»? Ён паралельны ці ён складзены толькі з нашых эмоцыяў? Нешта замінае мне думаць пра яго. Што? Тое, што думаць пра яго — значыць вось тут зараз яго прыдумляць? А гэта несур'ёзна? Не, не толькі гэта. Тое, што яго няма па вызначэнні? Але чаму тады мы нічога не ведаем пра жыццё і смерць? І гэтае няведанне сядзіць у нас вельмі ўпэўнена, як інстынкт.

.....

Цяпер я раскажу адну гіс-торыю. Галі Навумчык у Празе прыснілася Таня. Не тое, каб яны былі блізкімі, хутчэй наадварот. Проста ёсць такая з'ява — свае людзі. З іншым ты і незнаёмы, але ведаеш, што ён свой, і ён гэта пра цябе ведае.

Таня прасіла вынесці з нашае хаты яе рэчы, а пра ўсе дэталі ведае Іра.

Пра рэчы я стаў распытваць Ларыску, швагровую, у Маркаве. Яна сказала, што гэта пра рэчы, якія былі ў машыне, бо астатнія рэчы могуць быць у хаце да года ці, калі трэба, увогуле застацца, гэта не замінае.

Але што рабіць з Ірай? Ірынаў я ведаю нямала, але гэта можа быць нехта і невядомы.

Колькі мне ні пераказвалі пра Таню ў снах розныя людзі, яна заўсёды паўтарала: я жывая. Можа быць, калі азавецца Іра, якая ведае нешта, у нас будзе шанец зазірнуць за гэтую дурацкую мяжу пазнання?

Не магу паверыць, што Тані няма, і не магу паверыць, што яна недзе ёсць.

*(З невялікімі скаротамі)*

## ХАКЕЙ

### Чэмпіянат КХЛ

У Мінску праходзяць матчы Чэмпіяната Кантынентальнай хакейнай лігі, у якую ўваходзяць 19 расійскіх каманд і па адной — беларуская, латвійская, казахская і славенская.

**12 студзеня (чацвер).** «Дынама» Мінск — «Металург» (Магнітагорск). Мінск-Арэна. 19:00

**15 студзеня (нядзеля).** «Дынама» Мінск — «Нафтахімік» (Ніжнякамск). Мінск-Арэна. 17:00.

**17 студзеня (аўторак).** «Дынама» Мінск — «Ак Барс» (Казань). Мінск-Арэна. 19:00

## ІМПРЭЗЫ

### «Калядныя цары»

**15 студзеня ў вёсцы Семежава Капыльскага раёна Мінскай вобласці** можна пабачыць абрад «Калядныя цары», унесены ў Спіс сусветнай нематэрыяльнай культурнай спадчыны ЮНЭСКА. Абрад паходзіць з XVIII стагоддзя, калі ў Семежаве стаялі расейскія вайскоўцы. Яны пасля Калядаў абыходзілі гаспадароў і віншавалі са святамі, спадзеючыся на пачастунак. Пасля расейцы сышлі, а абрад застаўся. Яго выконваюць маладыя мужчыны, апранутыя ў стылізаваную салдацкую адзежу: белыя штаны ды кашулі, на грудзях — крыж-накрыж павязаныя семежаўскія паясы, на галовах — высокія шапкі з рознакаляровымі стужкамі. Паступова ў вусны «цароў» уклаліся словы з народнай драмы «Цар Максімілян». У пастаноўцы бяруць удзел і народныя героі Дзед і Баба, якія дадаюць абраду атмасферы шоу. Увечары «Калядныя цары» запальваюць паходні.

### Шчадрэц

**15 студзеня Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту** запрашае на свята «Шчадрэц». Яно здаўна адбывалася ў выглядзе народнага карнавалу з пераапрананнямі. Найчасцей калядоўшчыкі вадзілі «казу» — сімвал плоднасці і ўраджаю. Бывала, пераапраналі кагосьці мядзведзем, які ўвасабляў сілу і здароўе. Бывалі і рэгіянальныя асаблівасці: так, на Гомельшчыне вадзілі «кабылу», на Міншчыне — «жорава», на Гродзеншчыне — «бусла». Шчадроўскія маскі і спевы можна заспець у Строчыцах ад 13 да 15 гадзіны. Музей месціцца за мінскім аўтарынкам «Малінаўка», непадалёк ад вёскі Азярцо.

### Прэзентацыя беларускіх календароў

**16 студзеня ў мінскім Палацы мастацтваў (Казлова, 3)** адбудзецца прэзентацыя беларускамоўных насценных календароў, выдадзеных ТБМ на 2012 год. Найперш гэта каляндар, прысвечаны 120-годдзю Максіма Багдановіча, а таксама некалькі дзясяткаў календароў з выявамі шэдэўраў беларускага дойлідства. **Пачатак а 17-й.**

## КАНЦЭРТЫ

### «Харошкі»

**13 студзеня ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі (пр.Незалежнасці, 50)** — святочны навагодні канцэрт ансамбля «Харошкі». Тэма выступу — вядома ж, Каляды. Харэаграфічныя фантазіі, жартоўныя замалёўкі з вясковага жыцця — «Каляда», «Святкі», «Завеі», «Дрыготка»... Кожны танец — маленькі спектакль са сваёй драматургіяй, інтрыгай, героямі. Віртуозная тэхніка танцораў, бліскучае акцёрскае майстэрства, нацыянальны каларыт, мяккі далікатны гумар — гэта і ёсць фірмовы «харошкаўскі»стыль. Квіткі каштуюць 50—80 тыс. рублёў.

### UNB

**15 студзеня ў клубе «Re:Public» (Прытыцкага, 62)** — канцэрт аднаго з самых загадкавых гуртоў мінскай рок-сцэны — UNB. Доўгажыхары і рэкардсмены па колькасці альбомаў зайграюць у пашыраным складзе — з духавымі і клавішамі. **Пачатак а 19-й.**

### Прынашэнне на Раство

**13 студзеня а 19-й у Белдзяржфілармоніі, у Малой зале імя Р.Шырмы** — канцэрт «Прынашэнне на Раство».

## ВЫСТАВЫ

### Калядны кірмаш

**Да 15 студзеня ў мастацкай галерэі «ЛаСандр-арт» (Рамanaўская Слабада, 24)** працуе выстава жывапісу «Калядны кірмаш». У экспазіцыі — працы Ігара і Алены Бархаткавых, Сяргея Рымашэўскага, Уладзіміра Канцэдайлава, Дзмітрыя Сурыновіча і іншых.

### Калядныя замалёўкі

**Да 14 студзеня ў Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (зав.Музычны, 5)** працуе выстава дзіцячай творчасці «Калядныя замалёўкі».

# На сабаках па Лагойшчыне


PHOTO BYMEDIA.NET

14—15 студзеня ў Лагойскім раёне, на базе адпачынку «Пікнік-гатэль «Экспедыцыя», пройдзе Міжнародны злёт-фестываль аматараў ездавога спорту «Паўночныя сабакі».

У рамках фестывалю маюць прайсці спаборніцтвы па дысцыплінах ездавога спорту, у тым ліку гонкі на сабачых запрэжках. Збяруцца 82 каманды спартоўцаў з Украіны, Расіі, Літвы, Латвіі, Нідэрландаў.

Гледачам прапануюцца актыўныя гулянні на свежым паветры, сібірская і японская лазня, нырцаванне ў палонку. Дзецям да 8 гадоў — уваход вольны. Кошт квітка — 40 000 рублёў. Даведкі па т.: (44) 558-75-55.

«Экспедыцыя» месціцца на ўзбярэжжы Плешчаніцкага вадасховішча, паблізу Войкаўскай ГЭС, на базе адпачынку «Плешчаніцы-2». Пачатак свята аб 11-й.

### Company & Цеслер

**Да 21 студзеня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** экспануецца выстава «Company & Цеслер», на якой можна ўбачыць лялькі Алены Байрачнай, скульптуры Мікалая Байрачнага і Віктара Мінко, аб'екты Уладзіміра Цэслера.



### Збор сродкаў на палац у Жалудку

**Ад 23 студзеня да 4 лютага ў Музеі гісторыі беларускага кіно (Свярдлова, 4)** працуе дабрачынная выстава з мэтай збору сродкаў для рэстаўрацыі гісторыка-культурнай каштоўнасці «Комплекс былога палаца Святаполк-Чацвярцінскіх у г.п. Жалудок».

### Новы год: час мінскі

**Да 1 сакавіка ў Музеі гісторыі Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава «Новы год: час мінскі». На выставе — больш за 300 прадметаў: гадзіннікі і гадзіннікавыя механізмы розных часоў, творы жывапісу, графікі, фота, прадметы побыту і інтэр'еру.

### Магілёўскае школішча

**Да 20 студзеня ў Музеі этнаграфіі Магілёва (Першамайская, 8)** працуе выстава «Магілёўскае школішча: учора, сёння, заўтра». Унікальныя гравюры, фотаздымкі, малюнкі, музейныя экспанаты, сабраныя ў фондах Беларусі, Расіі і Германіі, разам з працамі сучасных мастакоў распавядаюць пра Школішча — гістарычнае прадмесце Магілёва, якое ўзнікла за межамі сярэднявечнага горада і з XVII стагоддзя было заселена габрэямі.

## ТЭАТРЫ

### 11 студзеня

**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Юнага гледача** — «Апошні дубой»
**Купалаўскі** — «Вечар»
**Беларускай драматургіі** — «Сонечка»

### 12 студзеня

**Юнага гледача** — «Маленькі лорд Фаўнтлярой»
**Купалаўскі** — «Ноч на Калядны»
**Беларускай драматургіі** — «Вандроўнікі ў Нью-Ёрку»

### 13 студзеня

**Юнага гледача** — «Пан міністр»
**Купалаўскі** — «Ноч на Калядны»
**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»

### 14 студзеня

**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Лялек** — «Кот у ботах»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Купалаўскі** — «Ноч на Калядны»

### 15 студзеня

**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Лялек** — «Асцярожна, свіння»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Купалаўскі** — «Ноч на Калядны»
**Оперы і балета** — «Іяланта»

### 16 студзеня

**Беларускай драматургіі** — «Дарагая Алена Сяргееўна»
**Купалаўскі** — «Я не пакіну цябе»

### 17 студзеня

**Оперы і балета** — «Севільскі цырульнік»
**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»
**Беларускай драматургіі** — «Хто пакахае мадам?»

### 18 студзеня

**Оперы і балета** — «Дон Кіхот»
**Беларускай драматургіі** — «Што баліць?»
**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Купалаўскі** — «Востраў Сахалін»

## КІНО

### Стылёвая татуіроўка ад Фінчэра

**Дзяўчына з татуіроўкаю цмока**
The Girl with the Dragon Tattoo
ЗША — Нямеччына — Швецыя — Вялікабрытанія, 2011, 160 хв.
**Рэжысёр:** Дэвід Фінчэр
**Ролі выконваюць:** Дэніэл Крэйг, Руні Мара, Крыстафер Пламер
**Жанр:** дэтэктыў
**Адзнака:** 7,5 (з 10)

Адстаўны журналіст Мікаэль Блумквіст даследуе загадкавую гісторыю Гэрыет Вангер, якая знікла сорак гадоў таму. Пошукі зводзяць героя з таленавітай хакеркай Лісбет Саландэр. Таямніцы клана Вангераў выяўляюцца небяспечнымі для цікаўных. Фільм Дэвіда Фінчэра — паўторная экранізацыя папулярнага шведскага рамана Стыга Ларсана. Але пастаноўшчык «Сямі» і «Байцоўскага клуба» ператварыў лявацкі дэтэктыў ў трагічнае відовішча. Аскетычна-жоўты холад, чорныя шыбы, арганны вусціш закадравай музыкі, татуіроўкі на целе — гэта сучасны дэтэктыў, дзе мужчына — ахвяра, а жанчына — ваярка, сама здольная абараніць і адпомсціць. Гатычны касцюм Руні Мары пашыты з «вампаўскіх» шатаў «чорных» фільмаў. А Дэніэл Крэйг надзвычай пераканаўчы ў ролі рэфлексіўнага «Джэймса Бонда» ад журналістыкі, чые высілкі ўжо і не важныя.

**Андрэй Расінскі**



# Лазня для дваіх

Якія паслугі прапануе **мінскі лазневы бізнес**?

Лазневы бізнэс на постсавецкай прасторы моцна абавязаны стваральніку «Іроніі лёсу» Эльдару Разанаву.

Гэты эпахальны савецкі фільм па сёння забяспечвае амаль 100-працэнтную запаўняльнасць лазняў на Новы год і, адпаведна, высокія прыбыткі іх гаспадарам. «Калі б сустрэў Разанава, праставіў бы яму добрага каньяку», — прызнаўся «НН» Ігар, уладальнік катэджа з саўнай у цэнтры Мінска.

Ёсць і іншае меркаванне: сустрэць Новы год у лазні — гэта значыць, увайсці ў яго чыстым, здаровым і аднаўленым, пакінуўшы ўсе турботы ў годзе мінулым.

Зараз у Мінску і наваколлі ёсць багаты выбар лазняў і саўнаў. Іх колькасць павялічваецца. На адным толькі сайце Parilka.by налічваецца больш за 60 такіх установаў.

Дарэчы, «лазня» і «саўна» — па сутнасці, тоесныя разуменні. І першае, і другое спрыяе вывядзенню шлакаў з арганізму праз потавыдзяленне. Проста ў свядомасці большасці людзей саўна асацыюецца з Фінляндыяй ці Турцыяй.

Асноўныя параметры, па якіх лазня адрозніваецца ад саўны, — тэмпература і вільготнасць паветра. Саўна прадугледжвае наяўнасць басейна. Але і ў большасці сучасных лазняў ёсць дзе паплёскацца пасля парылкі.

| Від лазні | Тэмпература, °C | Вільготнасць, % |
|---|---|---|
| Руская «класічная» | 45-65 | 40-65 |
| Руская «гарачая» | 75-90 | 20-35 |
| Фінская (сухая) | 90-110 | 5-10 |
| Турэцкая (паравая) | 40-45 | 100 |

Існуюць і больш экзатычныя спосабы прапацець з карысцю для здароўя.

Інфрачырвоная саўна ўяўляе сабой драўляную кабіну, у якой усталяваныя спецыяльныя ІЧ-награвальнікі. Кабіна награецца за 15 хвілін. Нягледзячы на невысокую тэмпературу, пот добра выдзяляецца, а арганізм праграецца надзвычай глыбока.

А вось крыясаўна — поўная процілегласць парылкі. У крыясаўне вы цягам трох хвілін «парыцеся» ў вадкім азоце пры тэмпературы мінус 130 градусаў!

## Аказанне інтымных паслугаў у саўнах — гэта перажытак »

Лічыцца, што такая працэдура мае амаладжальны эффект. Зрэшты, не перабаршчыце з замарозкай (а то вас напаткае лёс героя Луі дэ Фюнэса ў старым добрым фільме).

Фурака (афура) — так завецца драўляная бочка, якую запаўняюць альбо пілавіннем, альбо гарачай (ці халоднай) вадой. Драўлянае пілавінне падаграюць да 50°C. Чалавек «акунаецца» ў пілавінне па грудзі. Пры гэтым галава і сэрца моцна не награюцца, што важна для гіпертонікаў і людзей з іншымі захворваннямі. Награтае пілаванне не толькі саграе, але і масіруе цела.



Хадзіць у лазню прыемна і карысна.

Для большасці беларусаў наведванне саўны хутчэй спосаб адпачыць у кампаніі сяброў, а не аздараўленне.

Часам за півам, кальянам, більярдам, басейнам, масажам ці чымсьці яшчэ наведнікі саўнаў увогуле забываюць, навошта яны сюды прыйшлі: папарыцца.

Дарэчы, пра «штосьці яшчэ». Са слоў Ігара, аказанне інтымных паслугаў у саўнах — гэта перажыткі эпохі 90-х. Узгадаем «Брата-2», дзе галоўны герой з прыяцелямі выращае пытанні ў лазні, а на заднім фоне мільгаюць аголеныя дзяўчыны. Зараз просьба «выклікаць дзяўчат» — хутчэй выключэнне з правілаў.

Сама ж традыцыя хадзіць у лазню па парах закладзеная ў нашых генах, лічыць Ігар. Дзе, калі не ў лазні, зачыналіся нашы прабабулі і прадзядулі? Можа, таму іх мінула халера, якая забрала жыцці паловы Еўропы. Цікава, што англійская каралева Лізавета I (XVI ст.) мылася раз на тры месяцы. А іспанская Ізабела Кастыльская (XV ст.) — увогуле двойчы за сваё жыццё: калі нарадзілася і калі выходзіла замуж.

Некаторыя лазні прапануюць паслугу «лазня для дваіх». Ёсць адмысловыя праграмы для маладых.

Цэны ў лазнях Мінска пачынаюцца ад 20 тысяч рублёў за наведванне (грамадскія лазні). За 80—150 тысяч за гадзіну можна арандаваць саўну на 8—12 чалавек. Пры гэтым у карыстанні будуць басейн, більярд, пакой для адпачынку з канапай, ТБ, караоке і іншыя дадатковыя паслугі.

Саўны-люкс адрозніваюцца даражэйшай мэбляй, тэхнікай і лазневым абсталяваннем. Напрыклад, басейн можа быць з джакузі, а дэзінфекцыя вады — на аснове актыўнага кіслароду, што не раздражняе скуру. За дадатковую плату можна наняць баншчыка, які возьме на сябе ўсе клопаты па награванні і падтрыманні тэмпературы ў лазні. Сярэдняя цана — ад $30 (на дваіх) да $80 (для кампаніі да 8 чалавек) за гадзіну. У навагоднюю ноч цэны ў дарагіх саўнах пачыналіся ад $300.

**Аксана Рудовіч**

# У Беларусі з'явіцца новы інтэрнэт-пошукавік

У каталогу Index.by знаходзяцца **толькі сайты, якія маюць дачыненне** да Беларусі.

У сакавіку 2012 года пачнецца публічнае тэставанне новага беларускага пошукавіка Index.by. Як паведамляюць стваральнікі новай сістэмы, у пошукавіку не будуць выкарыстоўвацца тэхналогіі Google і Yandex, а гэта значыць, што яна будзе працаваць выключна з сайтамі, якія маюць дачыненне да Беларусі. Усе сайты ў каталогу будуць праходзіць праверку — то бок працаваць з імі давядзецца ўручную.

Што гэта дасць? У найбуйнейшых пошукавіках сістэма аўтаматызаваная — гэта значыць, што пры рэгіянальным пошуку могуць з'яўляцца «дзіркі» і сярод вынікаў можна трапіць расійскі сайт ці, напрыклад, сайт, зарэгістраваны ў зоне .by, які не будзе мець дачынення да Беларусі.

Новы пошукавік будзе працаваць толькі з сайтамі, якія трапілі ў каталог. Яны сабраныя па ўсім сецыве, пры гэтым шансы выйсці на непатрэбныя старонкі рэзка зніжаюцца.

Яшчэ адзін плюс пошукавіка — дакладная выдача запытаў не толькі па абласцях, але і па раёнах.

Сайт аформлены на беларускай і расійскай мовах, пошук будзе працаваць і з наркамаўкай, і з тарашкевіцай, і нават з лацінкай.

«Апроч таго, з'явіцца і дадатковая прапанова — распрацаваны рэйтынг сайтаў, — расказвае адзін са стваральнікаў index.by. — Статыстыка дазволіць сачыць за наведвальнасцю ў рэжыме рэальнага часу. Яна таксама будзе зроблена з ухілам на рэгіянальнасць: можна будзе ўбачыць, хто і з якога горада заходзіў на сайт.

**ЮУ**

# Дарога Пухавічы — Бабруйск можа стаць платнай

Трасу будавалі **за крэдытныя грошы**.

У Беларусі можа вырасці колькасць платных аўтадарог. Мінтранс мяркуе браць грошы за праезд на ўчастку Пухавічы — Бабруйск аўтадарогі М5 Мінск—Гомель. Рэканструкцыя гэтай дарогі праводзіцца за кошт крэдытных рэсурсаў Сусветнага банка. Чакаецца, што гэтыя работы завершацца летам 2013 года.

Каб вярнуць крэдыт, згодна з дамовай, трэба будзе ўвесці дарожныя зборы. «Вядуцца перагаворы, у тым ліку з адной з аўстрыйскіх кампаній», — кажуць у Белаўтадары.

У бліжэйшы час плануецца пачаць рэканструкцыю яшчэ аднаго ўчастка аўтадарогі М-5 — Жлобін—Гомель. Як чакаецца, праект будзе ажыццяўляцца за кошт кітайскага крэдыту.

Пакуль жа ў Беларусі платнай застаецца толькі адна аўтамагістраль М-1/Е30 Брэст — Мінск – Орша. Але праезд па ёй бясплатны для беларусаў, расійцаў і казахаў.

**БелТА**

# Мядзведзі ў беларускіх лясах не могуць залегчы ў спячку

Вінаватая **анамальна цёплая зіма**.



Леснікі ў Бярэзінскім біясферным запаведніку дагэтуль сустракаюць сляды мядзведзяў, хоць звычайна ў такі час жывёлы ўжо павінны пагрузіцца ў зімовы сон. «Штогод гэта адбываецца ў сярэдзіне снежня, калі маразы становяцца ўстойлівымі, — кажа намеснік дырэктара запаведніка Валерый Іўковіч. — Сёлета зіма анамальна цёплая, і гэта парушае звыклы рэжым мядзведзяў, замінаючы ім спаць». Жывёлы блукаюць па лесе ў пошуках ежы, якой у гэты перыяд мала, і ў выніку губляюць назапашаныя да зімы вітамінавы запас і энергію.

Але ад пацяплення пакутуюць не ўсе лясныя жыхары. Напрыклад, перавагі плюсавай тэмпературы адчуваюць дзікі, казулі і алені. «Яны пачуваюцца камфортна, не маючы недахопу ў корме», — адзначае Валерый Іўковіч.

**БелТА**




Старая Беларусь пакінула нам толькі фрагменты сваёй велічы. Анонс новага праекта фатографа «НН» Сяргея Гудзіліна аб беларускіх брукаванках. Просьба да чытачоў: калі вы ведаеце месцы, дзе захаваліся аўтэнтычныя брукаванкі, паведаміце у Рэдакцыю іх знаходжанне. Пазначаць лепш раён і вёску, мястэчка ці хутар, ля якога яна знаходзіцца. Гэтым вы якасна паспрыяеце фотапраекту, які пабачыце ў новым 2012 годзе на старонках «Нашай Нівы».




Калядаванне ў мястэчку Бобр (Крупскі раён).



2 студзеня дзясяткі тысяч дохлых селядцоў запаланілі пляж у раёне горада Квенес на поўначы Нарвегіі. На думку навукоўцаў, выкінуцца на бераг 20 тонаў селядцоў прымусіла зграя драпежных рыб або магутны шторм, але ад больш канкрэтных версій эксперты адмаўляюцца.




Работніцы Беларускага металургічнага зняліся для эратычнага календара. Каляндар прызначаны для маркетынгавых мэтаў і будзе распаўсюджаны сярод дзелавых партнёраў завода.

## Анекдоты

* * *

Дадзена:

Кандыдат X мае рэйтынг 44,6%, кандыдат L — 21,7%.

Пытанне:

Колькі гадоў атрымае кандыдат X, калі кандыдат L атрымае чарговую элегантную перамогу ў 87%?

* * *

Класная лазня. Пратоплена не па-дзіцячы. Для адчування, што гэта філія пекла, не хапае толькі грэшніцаў.

* * *

Настаўніца:

— Алесь, назаві будучы час дзеяслова «скрасці».

— Пасадзіць.

* * *

Беларусь застаецца лідарам сярод краін СНД і Еўропы па тэмпах інфляцыі. Ну, хоць у нечым мы першыя.

* * *

— Прабачце, гэта вас называюць чалавек-павук?

— Дасталі ўжо! Падумаеш, адзін раз муху ў кампоце не заўважыў.

* * *

— Чаму тысячы селядцоў выкінуліся на бераг у Нарвегіі?

— Наверна, какой-та рыбій правадыр указаў няверны курс.

* * *

Пакуль госці збіраліся на вуліцу сустракаць Новы год, п'яны сапёр Пятроў у куце паспеў размініраваць усе петарды.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Дзвінск.** У ваенным складзе Дзвінскай крэпасці выкрылі немалую крадзежу салдацкай адзежы. Крадзежа тым больш цікавая, што гэтыя склады ўдзень і ўночы вартуюць салдаты з вінтоўкамі ў руках.

**«НН». №1. 1912.**

**Новы 2002 год для еўрапейскай інтэграцыі адзначыўся ўвядзеннем адзінай наяўнай валюты — еўра.** Дагэтуль Еўрасаюз быў у асноўным справай палітычна-бюракратычных ды фінансава-эканамічных элітаў, але з увядзеннем агульнаеўрапейскіх грошай ён надзвычай блізка падышоў да шараговых грамадзянаў ЕС, якія дагэтуль больш лічылі сябе грамадзянамі асобных краінаў, чым еўрапейцамі.

**«НН». №1. 2002.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7800. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 10.01.2012.
Замова №128.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 12001